


# Рэгіянальная газета

27 верасня 2013 года
№ 39 (961)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Беларусь за бортам Балонскай сістэмы адукацыі.

20-21-я старонкі



"Каледж і аркестр – маё дзецішча".

6-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Для п'яных за рулём узмоцняць адказнасць

**РЭГІЁН.** Ад 24 кастрычніка дзяржаўтаінспекцыя ўзмацняе адміністрацыйную і крымінальную адказнасць за кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення. У сілу Закон "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях" уступіць ад 27 жніўня.

## Падтрымка для пенсіянераў

**АСТРАВЕЦ.** У Рымдзюнах 28 верасня ў 17.00 на сцэне сельскага Дома культуры пройдзе дабрачынны спектакль "Каляднны вечар". Уваход бясплатны, але кожны зможа пакласці ў скарбонку любую суму грошай. Усе яны пойдуць на дапамогу адзінокім старым людзям. Спектакль пастаўлены па п'есе "Калядны вечар" журналісткі і пісьменніцы, рэдактара раённай газеты "Астравецкая праўда" **Ніны Рыбік**. У ім распавядаецца пра драматычны і нават трагічны лёс самых звычайных жанчын, якія дажываюць свой век у доме састарэлых.

## Рыхтаваліся да "Хаўера"

**МЯДЗЕЛ.** На Мядзельшчыне 25 верасня адбыліся вучэнні па падрыхтоўцы да ліквідацыі надзвычайных сітуацый у зімовы перыяд – накшталт такіх, якія адбыліся ў сакавіку ў Беларусі падчас цыклону "Хаўер". На вучэннях імітавалі сітуацыю, калі ва ўмовах моцнага снегападу адбылося сутыкненне трох аўтамабіляў і аўтобуса і на дарозе з'явіўся затор, паведаміў намеснік начальніка райаддзела на надзвычайных сітуацыях **Андрэй Матняк**. Правяралі зладжанасць дзеянняў у гэтай сітуацыі розных службаў: выратавальнікаў, міліцыянераў, дарожнікаў, медыкаў і нават прадстаўнікоў райспажыўтаварыства (яны мусяць забяспечваць кіроўцаў гарачым харчаваннем).

## Чэмпіянат краіны па мотакросе

**АШМЯНЫ.** 28, 29 верасня на трасе каля вёскі Будзёнаўка пройдуць спаборніцтвы другога этапа адкрытага чэмпіянату Беларусі па мотакросе. Па словах дырэктара Ашмянскай аўташколы ДТСААФ **Віктара Юкевіча**, падрыхтоўка да спаборніцтваў ідзе поўным ходам. На іх збярэцца ўся Беларусь, прымуць удзел і расіяне, літоўцы, латышы, магчыма, немцы.

**Аддзел інфармацыі.**



# Калі будзе цёпла?



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Кожны грэецца, як можа...

**МАЛАДЗЕЧНА. У жылыя дамы цяпло прыйдзе, калі сярэднясутачная тэмпература паветра на працягу пяці сутак будзе не больш за 8 градусаў цяпла.**

У дзіцячых і медыцынскіх установах цяпло з'явіцца раней: калі сярэднясутачная тэмпература паветра будзе складаць 8 градусаў вышэй за нуль на працягу трох сутак.

– Але такі тэмпературны рэжым пакуль не ўсталяваўся, – патлумачыў намеснік начальніка Маладзечанскіх электрасетак па цеплаэнергіі **Леанід Кузняцоў**.

Ён адзначыў, што чакаць ацяплення варта ў кастрычніку.

Летась ў Маладзечанскіх дзіцячых садках і школах далі цяпло 8-9 кастрычніка, а ў жылыя дамы – 12-14 кастрычніка.

**АСТРАВЕЦ. У Астравецкім раёне ацяпленне ўключаюць у адпаведнасці з абласным рашэннем.**

– Мы заўсёды чакаем загаду з Гродна. Як толькі даюць дазвол на ўключэнне цяпла, адразу яго падключаем, – распавядае цеплатэхнік Астравецкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Рэгіна Юркойць**. – Напрыклад, летась цяпло ў дашкольныя дзіцячыя ўстановы пачалі даваць ад 20 кастрычніка. Потым паступова да 25 кастрычніка цяпло з'явілася ў астатніх арганізацыях і дамах.

**МЯДЗЕЛ. Калі можна чакаць уключэння ацяплення ў садках, школах і кватэрах, расказаў першы намеснік генеральнага дырэктара Мядзельскай ЖКГ Уладзімір Шабовіч.**

– Напачатку рашэнні аб падачы цяпла прымаюць абл- і райвыканкам. Ацяпленне ў дзіцячых садках, школах, бальніцах, установах сацыяльнай абароны ўключаць, калі сярэднясутачная тэмпература паветра пяць дзён запар будзе ніжэйшая за 10 градусаў.

Потым цяпло падключаецца спажыўцам другой катэгорыі – гэта жыллёвы фонд, інтэрнаты. Сюды цяпло падаецца, калі сярэднясутачная тэмпература паветра пяць дзён запар не перавысіць 8 градусаў.

У Мядзеле працэс падключэння усіх дамоў звычайна займае два-тры дні.

Далей падключаюцца адміністрацыйныя будынкі.

## Можа быць самая халодная зіма

**ВІЛЕЙКА. Паводле некаторых выданняў, сёлета ў Еўропе будзе самая халодная зіма за апошнія 100 год.**

Гэты прагноз пракаментаваў начальнік вілейскай гідраметэастанцыі **Вячаслаў Лапко:**

– Я чуў такое, але яго верагоднасць невысокая. Няма такой тэхнікі, каб дакладна спрагназаваць надвор'е на ўсю зіму. Мы робім прыкладны прагноз на месяц, а прагнозы на тыдзень самыя дакладныя, іх верагоднасць 90%.

## На выхадных могуць быць замаразкі

На выхадных варта чакаць халоднага надвор'я, паведаміла для БелТА галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Людміла Парашчук**.

У Беларусі будзе паніжаны атмасферны ціск, пабольшае аблокаў. 27 і 28 верасня па рэспубліцы месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Максімальная тэмпература днём 11 градусаў цяпла, ноччу ад 1 да 7 градусаў цяпла.

У асобных раёнах пры праясненнях на глебе будуць слабыя замаразкі ад нуля – мінус трох градусаў. Не пакідайце адкрытымі бульбу і караняплоды.

– Тэмпературны фон на гэтым тыдні на 2-4 градусы ніжэйшы за кліматычную норму, – адзначыла галоўны сіноптык.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Алесь ВЫСОЦКІ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

СУСТРЭЧЫ

# Цыгалка, Цягалка... Гісторыя прозвішча

**ВІЛЕЙКА. 161 чалавека з прозвішчамі Цыгалка, Цэгалка, Цягалка, якія жывуць у Беларусі, Расіі, Польшчы, Казахстане, Латвіі і іншых краінах, налічыў у інтэрнэце Пётр Цыгалка з Маладзечна.**



Пётр Цыгалка з Маладзечна (справа) за сваім цёзкам з Мільчы.

Фота Наталлі ТУР.

А між тым, усе яны паходзяць з вёскі Мільча, што ў Вілейскім раёне.

Ідэя аб'яднаць усіх тых, хто носіць прозвішча Цэгалка, Цыгалка ці Цягалка належыць жыхарцы мястэчка Даўгінава **Людміле Цэгалцы**. Ужо два гады яна шукае тых, хто можа мець дачыненне да гэтага роду. Сёлета па ініцыятыве Пятра Цыгалкі, мясцовага краязнаўцы, збіраліся ўсе цёзкі ў вёсцы Мільча, з якой і бярэ паходжанне гэта прозвішча.

– Цяпер у групе адной з сацыяльных сетак нас 83 чалавекі, распавядае **Пётр Цыгалка**. Прычым, носьбіты прозвішча параскіданыя па ўсім свеце. Я вяду перапіску з Цыгалкамі з Польшчы, Расіі і іншых краін. Будзе добра, калі хоць палова нашых збярэцца.

Але, прыехаўшы на месца, бачу расчараванне на твары Пятра Міхайлавіча:

**– Толькі мясцовыя Цыгалкі і сабраліся.**

Між тым, мясцовыя Цыгалкі займаюць усю лаўку, што ля Мільчанскай царквы.

**– А род Цыгалак старажытны?**

– Яшчэ ў 1838 годзе, калі верыць царкоўнай кнізе, нас тут было два-тры прозвішчы, але пасля таго, як **Аляксандр Цыгалка** пайшоў у прымы ў вёску Руччо, пачалося распаўсюджанне Цыгалак на гэтай мясцовасці. У Аляксандра нарадзіўся **сын Раман**, у якога потым было чацвёра сыноў, а ў гэтых дзяцей па 7-9 сваіх. Ды што там! У нас, Цыгалак, і цяпер сем'і багатыя на дзяцей. У майго дзеда таксама сямёра было, – дзеліцца Пётр Цыгалка.

– Калі верыць царкоўнаму перапісу, што я знайшоў тут, у нашай Мільчанскай царкве, у 1908-м з 50 вясковых двароў 12 належалі Цыгалкам. А ўжо ў 1938 годзе са 100 двароў 30 былі адных Цыгалак.

**– Дык што за прозвішча такое, адкуль яно?**

– Паміж вёскамі Мільча, Саланое і Чысці Мільчанскія была рака Валачанка, уласнасць віленскіх манахаў-дамініканцаў. Па ёй з Докшыцаў на Вільню водным шляхам перапраўлялі тавар на вялікіх чаўнах. Продкі нашы, відаць, іх цягалі па Валачанцы. Адсюль і прозвішча – Цягалкі. Гэта пазней пачалі крыху змяняць: Цэгалкі і Цыгалкі. Саму раку мы з **Анатолем Рогачам**, краязнаўцам з Вілейкі, знайшлі на карце ад 1789 года. Тут яшчэ вялікае возера было, паблізу вёскі Вардамічы, па якім, па ўспамінах старажылаў, плаваў ручны мядзведзь. Мядзведзь быў панскі, унучкі палкоўніка Караваева **Ганны Сухоцінай**.

Праязджаем паўз невялічкую рачулку, пытаюся:

**– Гэта і ёсць тая самая Валачанка?**

– Так, а яшчэ ў канцы 19 стагоддзя, як успамінаў краязнаўца **Уладзімір Бяльковіч**, па ёй цягалі вялікія таварныя баржы.

– Калі мы рабілі меліярацыю ў гэтых месцах, – падключаецца да размовы **Іосіф Мацко**, мясцовы жыхар, – на глыбіні васьмі метраў адшуквалі ракавінкі. Можна меркаваць, што рака і была прыкладна такой глыбіні, а значыць, што па ёй і суднаходства магло ажыццяўляцца.

**– А яшчэ будзеце планаваць сустрэчу цёзак?**

– Вельмі хацелася б, каб і моладзь сабралася. Сумна, што яны не цікавяцца сваёй гісторыяй. Каб сабраць усіх Цыгалак, Цэгалак, якая б бяседа атрымалася!

**Наталля ТУР.**



СУСТРЭЧЫ

## "А ці не Марыя гэта Захарэвіч?"



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Расказвае Марыя Захарэвіч.

**МЯДЗЕЛ. У цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка 18 верасня прайшло чарговае пасяджэнне клуба "Задушэўная размова". У ім аб'ядналіся жанчыны, якія цяпер на заслужаным адпачынку.**

Яны ладзяць розныя мерапрыемствы, сустракаюцца з цікавымі людзьмі. На гэты раз госцем стала народная артыстка Беларусі, актрыса Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Марыя Захарэвіч**. Яна – ураджэнка вёска Навасёлкі, якая цяпер уваходзіць у межы Мядзела.

Марыя Георгіеўна распавяла пра свой жыццёвы і творчы шлях, пра ўдзел у навукова-асветніцкай экспедыцыі і пра тое, як некалі давялося выбіраць паміж тэатрам і тэлебачаннем:

– Калі была на трэцім курсе, адкрылася наша беларускае тэлебачанне. Я была ў ліку першых дыктараў – праходзіла, як кажуць цяпер, кастынг. Вядома, не было чаго апранаць. Адзін вечар брала кофтачку ў адной дзяўчыны, другі – у іншай, каб нешта памяняць. Але калі прыйшла пара вырашаць – тэатр ці тэлебачанне, то, канешне, выбрала тэатр. А напачатку працаваць на тэлебачанні падабалася, бо ў маіх Навасёлках ужо быў тэлевізарчык у некага, мяне бачылі бацькі і цёткі. А пасля мне гэта стала ўжо нецікава.

А вось з радыё актрыса супрацоўнічала доўга і плённа: яе голас гучыць у шматлікіх інсцэніроўках твораў беларускай літаратуры. Прыемна зямлячцы, што менавіта па голасе яе часта і пазнаюць:

– Калі прыязджаеш у самую глухую вёсачку любой вобласці, выступаеш, загаворыш – падыходзіць цётачка, пытаецца: "А ці не Марыя гэта Захарэвіч?" І атрымліваеш такія словы ўдзячнасці... А для мяне гэта самы вялікі падарунак. А па тэатры ніхто, можа, асабліва і не пазнаў бы: не ўсе могуць у тэатрах бываць.

Марыя Захарэвіч адказала на пытанні жанчын, успомніла акцёраў, з якімі даводзілася працаваць, прадэкламавала вершы Максіма Танка, Рыгора Барадуліна і інш. А мядзяльчанка **Ірына Міклушова** прачытала верш **Аркадзя Нафрановіча**, прысвечаны Марыі Захарэвіч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГІПОТЭЗЫ

## Чысць была часткай Тураўскага княства

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра гэта 19 верасня расказаў у чысцінскай бібліятэцы на прэзентацыі сваёй кнігі "Тураўскае княства" расійскі даследчык Аляксандр Чаромін.**

Пісьменнік, эксперт па гісторыі Расіі і суседніх дзяржаў, які займаецца пошукам і ўкараненнем у навуковы абарот невядомых фактаў, распавёў, чаму і як ён выбраў менавіта беларускую тэматыку для напісання сваёй кнігі.

Упершыню даследчык наведаў Беларусь у 1989 годзе. Аўтар падкрэсліў, што і цяпер, вандруючы па розных кутках беларускай зямлі, ён бачыць захаванне нацыянальных традыцый, самабытнасці, гаворак беларусаў.

У гутарцы закранулі праблемы сучаснага вывучэння і даследавання гісторыі Беларусі, пытанні значэння беларускай спадчыны для народа. А некаторыя прысутныя ўпершыню даведаліся, што ў часы X – XIV стагоддзяў тэрыторыя сучаснага мястэчка Чысць таксама ўваходзіла ў склад Тураўскага княства.

**Юлія АРАНОЎСКАЯ, кіраўнік аматарскага аб'яднання "Клуб журналістыкі" Чысцінскага СДК.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# Дзеці ідуць у школу перабежкамі

**МАЛАДЗЕЧНА. "Дзецям з СШ №9, каб перайсці дарогу да школы, прыходзіцца ісці па самой праезнай частцы! Гэта нармальна?" – з такімі словамі да нас звярнулася жыхарка Лясных Ала Т.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Дзецям з СШ №9 не пашанцавала з пешаходным пераходам каля школы.

На вуліцы Ларына, насупраць сярэдняй школы №9, што на Лясных, падчас дажджу затоплівае пешаходны пераход.

– Лужына стаіць напалову дарогі. Зразумела, што дзеці пры пераходзе дарогі, каб абысці лужыну, ідуць па самой праезнай частцы, – кажа абураным голасам маладзечанка. – Не ўсе машыны прапускаюць іх. Таму яны на свой страх і рызыку пераходзяць дарогу не ў належным месцы, перабежкамі, а гэта небяспечна.

Дырэктар сярэдняй школы №9 **Юры Вярніцкі** вельмі занепакоены гэтай праблемай.

– Праблему пешаходнага пераходу насупраць нашай школы мы ўжо падымалі на бацькоўскім сходзе, – кажа кіраўнік навучальнай установы. – Па правілах дарожнага руху дзецям забаронена пераходзіць дарогу не ў належным месцы. Гэта небяспечна. У ДАІ і "Камунальнік" я напісаў лісты з просьбай разабрацца ў гэтай сітуацыі.

У аўторак, 24 верасня, школе прыйшоў адказ ад начальніка Маладзечанскага РАУС **Валянціна Асіповіча**. У лісце было напісана, што гэтую сітуацыю з затапленнем пешаходнага перахода яны ўзялі на кантроль і ў бліжэйшы час абяцалі вырашыць праблему.

– З "Камунальніка" адказ пакуль не прыйшоў, але калі я размаўляў з імі па тэлефоне, яны паабяцалі, што ў хуткім часе з пераходам разбяруцца, – паведаміў нам дырэктар школы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Грамадзяне абаранілі прыроду ад хімікатаў

**ВАЛОЖЫН. Дзякуючы пільнасці мясцовых жыхароў, якім неабыякавыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, змаглі спыніць забруджванне прыроды хімікатамі.**

Вызначылі, што службовыя асобы таварыства "Лоск" Валожынскага раёна правялі хімічную апрацоўку плошчаў, размешчаных у водаахоўнай зоне ракі Заходняя Бярэзіна непадалёк ад вёскі Калдыкі.

Такая апрацоўка – парушэнне патрабаванняў Воднага кодэкса.

У адпаведнасці з артыкулам 77 Воднага кодэкса, у межах водаахоўных зон забараняецца прымяняць хімічныя сродкі для абароны раслін і іншыя.

У адпаведнасці з санітарнымі правіламі і патрабаваннямі да прымянення, умоў перавозкі і захоўвання пестыцыдаў (сродкаў абароны раслін), аграхімікатаў і мінеральных угнаенняў, адлегласць да населенага пункта ад апрацоўваемых пасеваў павінна быць не менш за 50 метраў і выконваць пры хуткасці ветру не большай за чатыры метры за секунду. Неабходна інфармаваць мясцовых жыхароў аб запланаваных работах за чатыры-пяць дзён.

Валожынскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі па даручэнні Маладзечанскай міжрайінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прыцягнуў галоўнага агранома таварыства да адказнасці, бо менавіта ён дапусціў парушэнні. Зацікаўленым арганізацыям накіравалі лісты аб тым, што парушэнні ў выкарыстанні хімікатаў недапушчальныя.

Маладзечанскі камітэт дзяржкантролю адзначае, што ўсё часцей сельскагаспадарчыя прадпрыемствы выкарыстоўваюць ядахімікаты і парушаюць санітарныя нормы і правілы, а таксама Водны кодэкс.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Пачалі працаваць кампосцеры

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад аўторка кампосцеры ўвайшлі ва ўжытак у Маладзечне.**

– Ад панядзелка ў некаторых маладзечанскіх кіёсках "Мінаблсаюздруку" можна набыць талоны за 1700 рублёў, як і ў кандуктара, – тлумачыць дырэктар аўтапарка №4 **Яўстафій Каравай**. – Можна набыць талоны ў касе аўтавакзала і ў кіёску аўтапарка па вуліцы Велікасельскай. Талоны будуць і ў кіроўцаў.

Праўда, талон у кіроўцы абыдзецца на 100 рублёў даражэй.

У "Мінаблсаюздруку" кажуць, што ў аўторак сераду талоны пачнуць прадаваць ва ўсіх кіёсках. Але праязныя пакуль можна будзе набыць толькі ў кандуктараў.

Прабіваць талоны ў кампосцерах абавязкова толькі ў тых аўтобусах, у якіх няма кандуктараў. Іх, паводле ацэнкі Яўстафія Іванавіча, каля 10% (5-6 з 30). Калі ў аўтобусе ёсць кандуктар, вы можаце ці набыць талон у яго, ці даць набыты ў кіёску талон на адну паездку, а кандуктар яго надарве.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

НАВУЧАННЕ

## Паспрабуйце сябе ў журналістыцы!

**МАЛАДЗЕЧНА. Юнакоў і дзяўчат з усяго рэгіёна, якіх вабіць журналістыка, запрашае "Рэгіянальная газета".**

У нас вы даведаецеся:

– чаму прафесія журналіста – адна з найцікавейшых

– што трэба ведаць і ўмець, каб быць паспяховым журналістам

– як зрабіць так, каб праца ніколі не была сумнай.

Журналісты-практыкі падзеляцца з вамі сваім досведам і параяць, чаго не хапае менавіта вам для поспеху. Вы навучыцеся працаваць над уласнымі артыкуламі, відэа і фота, якія могуць быць размешчаныя ў "Рэгіянальнай газеце" і на сайце rh.by.

Чакаем усіх ахвотных на першую сустрэчу, якая адбудзецца ў пятніцу, 11 кастрычніка, а 14-й гадзіне. З сабой бярыце блакнот і ручку.

Рэдакцыя "РГ" знаходзіцца ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 68-а. З пытаннямі звяртайцеся па тэлефонах: 8(0176) 76-96-67 ці 74-71-00, 8(044) 566-26-99.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

| Курсы валют НБ РБ | 19.09 руб. | 26.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 020,00 | **9 050,00** |
| Еўра | 12 060,00 | **12 200,00** |
| Злоты | 2 850,15 | **2 897,90** |
| Літ | 3 491,27 | **3 536,47** |
| Расійскі рубель | 280,00 | **283,50** |
| Грыўня | 1 101,56 | **1 106,36** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9 030/9 090 | **9 050/9 120** |
| Еўра | 12 100/12 300 | **12190/12 290** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.09 | 25.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 108500 | **108900** |
| Сасіскі, 1 кг | 45000 | **45500** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 70000 | **70000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25500 | **23500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 23800 | **23800** |
| Селядзец, 1 кг | 23500 | **23500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 85000 | **89000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10100 | **10000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 9300 | **8900** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| Алей | 16200 | **16200** |
| Маянэз, 200 г | 5200 | **5200** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7800 | **7800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 30000 | **30000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 8900 | **8900** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **4800** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **5500** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 20000 | **20000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15000 | **14500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22500 | **23000** |
| Памідоры, 1 кг | 10000 | **9500** |
| Агуркі, 1 кг | 10000 | **12000** |
| Перац, 1 кг | 8500 | **12000** |
| Вінаград, 1 кг | 23000 | **23000** |
| Бананы, 1 кг | 12000 | **12000** |
| Яблыкі, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Грушы, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| Масла, 1 кг | 60000 | **60000** |
| Тварог, 1 кг | 30000 | **30000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 15000 | **16000** |
| Бульба, 1 кг | 3500 | **3000** |
| Мёд, 1 кг | 50000 | **50000** |

# Гісторыя жахлівага забойства і бясконцай любові

## Студэнт БДУ забіў няверную жонку і яе каханка

**Суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю. Прысуд расстрэл. Жыццё мамы асуджанага цяпер праходзіць у электрычцы Маладзечна-Мінск, на якой яна возіць перадачы на Валадарку, дзе Павел чакае смерці. І прашэнні аб літасці для сына.**

### "Масла дазволілі!"

На сталічным вакзале мы і знаёмімся з Тамарай. Да нас падыходзіць хударлявая жанчына ў ружовай кофтачцы, спадніцы ды летніх туфлях. У руках — торбы з прадуктамі і адзеннем для сына. Падхапіўшы адну з сумак, мы рушым у бок турмы на вуліцы Валадарскага. "Хутчэй, хутчэй, дзяўчаты!" – Тамара хвалюецца, каб усё паспець: перадаць рэчы ў турму, а пасля сустрэцца з праваабаронцамі.

Дзівімся, адкуль у жанчыны, якой сёлета мінуў сёмы дзясятак, столькі энергіі! "Калі вырашаецца жыццё сына, мне нельга не спяшацца!" – тлумачыць на хаду.

"Газеты можна перадаць? Не? А масла?" – пытаецца яна ў акенца ля ўвахода ў турму. Пасля радасна звяртаецца да нас: "Масла дазволілі! Дзяўчаткі, можа б вы збегалі ў краму, узялі два пачкі?"

Разабраўшыся з маслам, праводзім Тамару ў змрочны пакойчык, дзе прымаюць перадачы. Перад ёй у чарзе чалавек дваццаць.

### Па чатырох артыкулах

Гродзенскі абласны суд сёлета прызнаў 23-гадовага Паўла Селюна вінаватым па чатырох артыкулах: забойства дзвюх асобаў з асаблівай жорсткасцю, здзек з трупаў, крадзеж і яшчэ крадзеж асабістых дакументаў. Прысуд не стаў нечаканасцю – расстралiць. Беларускія суды штогод выносяць дваты такія выракі. Пасля гэтага Еўрасаюз прымае дзяжурную дэкларацыю аб недапушчальнасці смяротнага пакарання – Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе ўсё яшчэ расстрэльваюць. А родныя злачынцы б'юць у званы, спадзеючыся адмяніць выкананне прысуду. Хоць спадзеву на паміламанне няшмат.

У апошнія гады ніводнаму з "расстрэльнікаў" пакаранне не было заменена на пажыццёвае зняволенне.

Матчынаму сэрцу не вытрываць

У кожнага з забойцаў, асуджаных на расстрэл, свая гісторыя.

Павел – студэнт гістфака БДУ, які сёлета мог бы стаць выпускніком, музыка, малады сем'янін. "Не быў, не знаходзіўся, не прыцягваўся".

Тамара Сялюн запрашае нас у Вілейку – звадзіць у школу, дзе вучыўся яе сын, у мясцовую бібліятэку... А калі б час дазваляў, далібог, усю Вілейку б уздоўж і ўпоперак абышлі. Так яна хоча, каб журналісты пагутарылі з людзьмі, якія ведалі яе сына. Бо тыя не могуць сказаць пра Паўла ніводнага дрэннага слова.

"У школе быў нармальны, спакойны. Захапляўся гісторыяй, шмат чытаў. Што потым здарылася... Не дай Божа гэта асуджаць. Матчынаму сэрцу цяжка такое вытрымаць", — кажа **Лілія Маслоўская**, класная кіраўніца Паўла, ледзь стрымліваючы слёзы.

"Не разумею, як такое магло здарыцца. Для мяне гэта нонсэнс. Я яго памятаю зусім з іншага боку", – пацвярджае **Вольга Якаўлева**, настаўніца па класе баяна.

Добрую характарыстыку для суда напісаў і адзін з выкладчыкаў гістфака БДУ.

### Салідарнасць і абыякавасць

Сваіх двух сыноў – блізнятаў Паўла і Андрэя – Тамара нарадзіла ў 37 год. Яна позна выйшла замуж, муж быў на пяць год маладзейшы. Аднак шлюб доўга не пратрымаўся. Спачатку гадаваць дзяцей дапамагалі бацькі Тамары. Калі іх не стала, даводзілася спраўляцца самой, на зарабак выкладчыцы каледжа. На дапамогу былога мужа ні тады, ні цяпер разлічваць не даводзілася.

Пенсія ў Тамары – 1,6 мільёна рублёў, большасць грошай ідзе на перадачы сыну ў турму. Цяпер працей: ён у Мінску, а раней трэба было ў Гродна дабірацца.

Жанчына бязмежна ўдзячна ўсім тым, хто ёй дапамагае. Калі здарылася бяда, сяброўка падарыла мабільнік. Хтосьці грошы прыносіў – "каб ездзіла да сына".

Праўда, шмат хто ў горадзе ад яе адвярнуўся. Робяць выгляд, што не бачаць – у лазні, на вуліцы. Тамара ўзгадвае, што балюча было чуць ад людзей нетактоўнае: "А гэта ў цябе здарылася?"

### Любоўны трохкутнік

Што ж здарылася ў адной з гродзенскіх кватэр у жніўні мінулага года, пасля чаго расплачвацца давялося ўсім – і удзельнікам канфлікту, і іх блізкім?

Павел жыў у Мінску. Там і вучоба, і праца. Каб забяспечваць і сябе, і маладую жонку Вікторыю, ён уладкаваўся грузчыкам.

Ажаніліся яны яшчэ ў лістападзе 2011. Тамара Сялюн толькі праз паўгода даведалася аб існаванні нявесткі, а пабачыць яе так і не паспела...

Знаёмыя дзяўчыны кажуць, што адносіны ў маладых не клеіліся. Паўлу зносіла дах ад кахання, а жонцы падабаўся іншы. Адносіны з мужам яна лічыла памылкай.

1 жніўня 2012 года Вікторыя пакідае на старонцы "Укантакце" допіс: "Еду ў Гродна". Праз некалькі дзён Павел прыязджае на гродзенскую кватэру, каб "правярыць" жонку, і бачыць яе з іншым мужчынам. Прычым яе каханкам аказваецца... блізкі сябар Паўла. Менавіта да Аляксея і прыехала Вікторыя.

Раз'юшаны муж забівае абаіх, але не спыняецца на гэтым. Павел рэжа на кавалкі цела гаспадара кватэры і выкідае ў сметніцу побач з домам. Пасля гэтага ён для чагосьці забірае з сабой дакументы і... галаву Аляксея (па некаторых версіях, папярэдне зварыўшы яе). З гэтым "трафеем" яго затрымалі ў Ваўкавыску, у цягніку на Мінск.

Расследаванне справы цягнулася 5 мясяцаў. Следства прызнала, што Павел Сялюн не дзейнічаў у стане афекту і ўсведамляў свае дзеянні падчас злачынства.

"У адной з газет прадстаўнік следства заявіў, што адзіны, хто ведае, што насамрэч адбылося ў дзень злачынства, гэта сам злачынца. Салідарны. Я ведаю, за што закрыты", – гэта цытата з ліста Паўла на волю.

### Пад гукі чорнага металу

Каб лепш зразумець псіхалогію мужа-забойцы, трэба сказаць колькі словаў пра ягоныя інтарэсы і асяроддзе, у якім ён бавіў вольны час.

І злачынца, і ягоныя ахвяры былі прыхільнікамі цяжкай музыкі і ўдзельнікамі беларускай блэкметал сцэны. Пад лэйблам "Morak Prod." Павел выдаў некалькі альбомаў металгуртоў. Музыкі ведаюць яго па мянушках "Смутак" і "Цемрашал". Апошні дыск пад лэйблам "Морак" выйшаў, калі Цемрашал ужо сядзеў у турме.

Пэўны час ён быў рэдактарам часопіса аб славянскай экстрэмальнай музыцы "Змрок", пасля выдаваў і свой часопіс.

Са школы цікавіўся акультнымі і сатанісцкімі плынямі. Гэта дало падставы некаторым экспертам назваць забойства "сатанісцкім". Ці звярталі ўвагу сябры на яго спецыфічныя інтарэсы? Так, але думалі, што гэтыя захапленні ён перарасце.

Ягоны былы сябар Аляксей быў вядомы пад мянушкай "Кронум". Ён таксама меў свой лэйбл "Omega Prod.", вядомы на міжнароднай блэкметал сцэне.

Вікторыя таксама цікавілася гэтай субкультурай, дапамагала Паўлу з працай. Знаёмыя расказваюць, што яна была мастачкай.

Жнівеньскія падзеі актыўна абмяркоўваліся на адным з англамоўных форумаў, прысвечаных блэкметалу: "Шчыра кажучы, Смутак заўсёды выглядаў больш як чалавек, які ў такой сітуацыі здзейсніць суіцыд, чым прынясе шкоду іншым. Але тое, што здарылася, пацвярджае, што выгляд падманвае", – пісаў адзін з ягоных знаёмых.

### "Толькі не пазбаўляйце жыцця"

17 верасня Вярхоўны суд разгледзіць касацыйную скаргу Паўла і вынясе канчатковы вердыкт.

Тамара Сялюн пагаджаецца, што тое, што зрабіў яе сын – жудасна. Але яна ўпэўненая, што ў нашай краіне павінна быць адменена смяротнае пакаранне. Яна ўзгадвае, што яшчэ на рэферэндуме ў 1996 галасавала за адмену расстрэлаў.

"Мой сын не зацяты бандыт. Але нават самаму зацятаму я б не пажадала, каб яго забілі. Хай працуе, пажыццёва выплочвае грошы... Толькі не пазбаўляйце жыцця", – просіць яна.

Яна напісала ўсім, каму магла, у тым ліку мітрапаліту Філарэту.

Зараз яе галоўная мэта – дамагчыся, каб сына пакінулі ў жывых. "А потым?.. Які б тэрмін яму ні далі, я дачакаюся, калі яго вызваляць. Спадзяюся на гэта".

**Аксана РУДОВІЧ, "Наша Ніва".**

**Ад рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты".** Матэрыял, апублікаваны ў газеце "Наша Ніва" да таго моманту, калі калегія Вярхоўнага Суда пакінула прысуд Гродзенскага абласнога суда, які асудзіў віляйчаніна Паўла Селюна да выключнай меры пакарання, у сіле. Пра гэта мы пісалі ў мінулым нумары "РГ".



Фота "Наша Ніва".

Тамара Сялюн гатовая грукацца ў любыя дзверы, абы выратаваць сына ад смерці.



Фота "Наша Ніва".

Павел Сялюн.



Наказание по моему обвинению предполагает пожизненное заключение и расстрел. Но какой бы ни была развязка я не собираюсь отказываться от своих взглядов, поворачиваться на 180°. В одной из газет представитель следствия заявил журналисту, что единственный, кто знает о том, что на самом деле произошло в день преступления, это сам преступник.

Фота "Наша Ніва".

"Якой бы ні была развязка, я не збіраюся адмаўляцца ад сваіх поглядаў", піша ў лісце з турмы Павел.

СВЯТЫ

# “Дажынкі”: віншавалі і частавалі салам

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 22 верасня, у санаторыі “Прыазёрны” прайшло свята “Нарачанскі вянок. “Дажынкі 2013”.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Вясковыя пачастункі прыйшліся даспадобы адпачывальнікам.

Удзельнікаў свята і адпачывальнікаў (сярод якіх мноства расіян) адразу сустракалі падворкі сельгаспрадпрыемстваў. А тут і вырашчаны ўраджай паказвалі, і вясковыя пачастункі прапаноўвалі пакаштаваць: дамашнія сыры, кілбасы, сала...

– Ой, якое смачнае сала. Я адсюль не пайду, – быў у захапленні адзін з адпачывальнікаў.

– А, можа, прадаяце? – то тут, то там з надзеяй пыталіся аматары вясковага сала.

Побач вясёлыя артысты спявалі прыпеўкі, і зноў жа курортную тэму не абміналі:

*На курорте я была,*
*в одного влюбилась,*
*Захотел поцеловать –*
*челюсть отвалилась.*

Госці краю на такія жарты не крыўдавалі, а самыя смелыя далучаліся да артыстаў і даказвалі, што і яны прыпеўкі ведаюць.

Далей размясцілася выстава вырабаў народных майстроў: прыехалі яны на свята не толькі з Мядзельшчыны.

– Найперш, лапці ідуць добра, – расказвае дырэктар Каловіцкага дома майстроў з Вілейшчыны **Тамара Бурко**. – Попытам карыстаюцца вялікія памеры, выкарыстоўваюць іх у сауне і басейне. Жанчыны, у каго хворыя ногі, таксама бяруць. Вырабамі з лазы людзі таксама цікавяцца: распытваюць, як плесці.

Фатограф з Паставаў **Васіль Белякоў** наладзіў выставу-продаж сваіх прац з краявідамі Мядзельшчыны – вядома, з аўтографамі.

Словам, для адпачывальнікаў і сувеніраў, і ўражанняў было багата: толькі паспявалі даставаць свае фотаапараты, тэлефоны і айпады. Спяшаліся сфатаграфавацца з артыстамі і народнымі майстрамі, у калярытнага ганчара **Сяргея Шчэрбы** нават прасіліся за бараду патрымаць.

– Вельмі ўсё цікава, прыгожа: вялікія майстры тут сабраліся, – дзяляцца ўражаннямі Аляксей і Людміла з Санкт-Пецярбурга.

– **Што больш за ўсё спадабалася?**

– Адзначыць штосьці адно – цяжка. Падабаецца ўсё – гэта ж ручная праца. Саламяныя капелюшы сабе прыкупілі, і яшчэ сувеніры набудзем.

Потым у зале санаторыя распачалася ўрачыстасць. На ёй уручылі Ганаровыя граматы і прэміі лепшым працаўнікам на жніве. Напрыклад, найлепшым экіпажам камбайна стаў сямейны дуэт **Уладзіміра і Аксаны Швайкоўскіх** з таварыства “Сваткі”.

Завяршылася мерапрыемства канцэртам аўтара і выканаўцы **Сяргея Наско**. А ў фае можна было пабачыць і прадэгуставаць прадукцыю філіялаў Маладзечанскага малочнага камбіната і прадпрыемства “Ілаўскае”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

## “Уладарамі вёскі” стала сям’я Бабушкіных

**ВІЛЕЙКА. Спячы арыгінальныя дранікі, забіць цвік у бервяно, хутка прыгатаваць салату “Аліўе” – гэта і не толькі павінны былі зрабіць удзельнікі конкурсу “Уладар вёскі-2013”.**

Раённы сямейны сельскагаспадарчы конкурс адбыўся 21 верасня ў Шылавіцкім сельскім Доме культуры.

Удзел прымалі маладыя сем’і з шасці сельскіх Саветаў. Чакалі іх пяць конкурсаў.

– Удзельнікі прадстаўлялі сваю “візітоўку”: спявалі песні, чыталі вершы, паказвалі тэатралізаваную пастаноўку, – паведаміла галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама **Вераніка Гайчук**. – На конкурс “Кулінарны паядынак” сем’і загадзя падрыхтавалі дранікі. Былі тут дранікі з грыбамі, смажанкай, вяндлінай і нават з перапёлчынымі яйкамі. Сям’я **Жукалавых** з Людвінова прыгатавала некалькі страў з дранікаў і паднесла адну з іх вельмі арыгінальна – у збанку, зробленым з гарбуза.

У наступным конкурсе мужчынам неабходна было забіць цвік у бервяно за найменшую колькасцю удараў. Лепш з гэтым справіліся **Валеры Бабушкін** з Крывога Сяла і **Андрэй Гакуць** з Нарочы.

У конкурсе “Гаспадынька вёскі” ўдзельніцы на сцэне рыхтавалі салату “Аліўе”. Самая смачная і прыгожая салата атрымалася ў **Тацяны Бабушкінай** з Крывога Сяла і **Святланы Роліч** з Іжы.

– Фінальны конкурс “Інтэлектуалы вёскі” ўключаў у сябе адказы сем’яў на пытанні, якія тычацца беларускіх народных традыцый, – кажа Вераніка Гайчук. – Варта адзначыць, што ўсе сем’і паказалі добрыя веды, адказаўшы практычна на ўсе пытанні.

Па выніках усіх конкурсаў пераможцам “Уладара вёскі-2013” стала сям’я Валерыя і Тацяны Бабушкіных з Крывога Сяла. Дарэчы, у гэтай сям’і выхоўваецца трое дзетак.

Сям’ю пераможцаў узнагародзілі падарункамі і дыпломам. Не засталіся без узнагарод і астатнія ўдзельнікі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КІНО

## Серыял здымаецца ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У жніўні ў вытворчым цэху прадпрыемства“Дыліс” прайшлі здымкі для расійскага серыяла “Парфумерка”.**

Галоўную ролю выконвае актрыса **Марыя Кулікова**, вядомая па фільмах “Даярка з Хацапетаўкі-3”, “Жанчыназіма”, “Дазвольце цябе пацалаваць” і іншых.

У здымках удзельнічалі супрацоўнікі “Дыліс”. Здымачная група атрымала прафесійную кансультацыю па тэхналогіі парфумнай вытворчасці для сцэн фільма.

Ёй упершыню давялося папрацаваць у Маладзечне, але ўдзельнікі групы станоўча адгукнуліся аб горадзе.

**Паводле vokrug.tv.**

ЮБІЛЕІ

# “Каледж і аркестр – маё дзецішча”

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета музычны каледж адзначае дзве святочныя даты: 55-годдзе каледжа і 45-годдзе сімфанічнага аркестра.**

На працягу месяца, кожную суботу, праходзяць сустрэчы выпускнікоў па спецыяльнасцях. Так, 7 верасня адбыліся сустрэчы выпускнікоў фартэпіяннага аддзялення і аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

На 14 верасня была прызначаная сустрэча выпускнікоў народнага і народнага струннага аддзяленняў.

У суботу, 21 верасня, прайшлі сустрэчы выпускнікоў вакальнага і харавога аддзяленняў, а 28 верасня адбудзецца апошняя сустрэча. На ёй збяруцца выпускнікі духавога, струнна-смычковага і музыказнаўчага аддзяленняў.

– Мы рабілі такія сустрэчы, таму што наша зала не можа ўмясціць больш чым пяць тысяч былых выпускнікоў, якіх мы выпусцілі за 55 гадоў, – распавядае дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага **Рыгор Сарока**. – Таму раздзялялі іх па спецыяльнасцях.

Чацвертага кастрычніка ў Палацы культуры адбудзецца фінальная вечарына, прысвечаная юбілеям. Госці прыедуць з многіх краін свету: з Эстоніі, Літвы, Польшчы, Расіі.

– Цяпер разам з Палацам культуры мы працуем над фільмам пра нашу ўстанову, дзе будзе паказана, што ёсць каледж і сімфанічны аркестр. Але большая частка фільма будзе прысвячацца менавіта аркестру, – дадае спадар Рыгор. – Сёлета мы адзначаем дзве даты – 55 гадоў каледжу і 45 аркестру. Чаму вырашылі святкаваць разам? Таму што каледж і аркестр – маё дзецішча, бо абедзвюма арганізацыямі кірую я. Разам атрымліваецца сто гадоў, – жартуе Рыгор Сарока.

На канцэрт запрасілі вядомых салістаў, якія вучыліся ў каледжы. Прыедзе **Уладзімір Александровіч**, **Валянцін Сухадолец**, саліст вялікага акадэмічнага опернага тэатра **Анатоль Сіўко**, піяніст **Міхаіл Ялецкі**.

– Канцэрт бясплатны, гэтым канцэртам мы не зарабляем грошы. Запрашаем усіх, хто хоча нас павіншаваць, – кажа спадар Рыгор.

Зала Палаца культуры разлічаная на 830 чалавек. Месцаў ужо не хапае, а просьбы прыйсці на канцэрт яшчэ паступаюць. Музычны каледж будзе прасіць супрацоўнікаў палаца, каб тыя паставілі дадатковыя крэслы, калі ёсць такая магчымасць.

Галоўнымі дасягненнямі Рыгор Сарока лічыць і тое, што аднаўленнем памяці Міхала Клеафаса Агінскага займаецца таксама музычны каледж. Яшчэ ў 90-я гады дзякуючы намаганням Рыгора Сарокі, 17 гадоў таму, у Фларэнцыі, дзе памёр кампазітар, была ўсталяваная дошка яго памяці на беларускай мове. Пазней перад будынкам навучальнай установы ў Маладзечне з’явіўся помнік Міхалу Клеафасу.

У юбілейны год плануецца пастаноўка оперы Міхала Клеафаса Агінскага “Невядомы партрэт”. Прэм’ера оперы прыпадае на 14-16 снежня.

– Гэта будзе бомба ў культуры Беларусі, – дзеліцца сваімі думкамі спадар Рыгор. – Наш горад выдзяляецца ад іншых тым, што замахнуўся на такія сур’ёзныя праекты, як опера. Яна напісаная па маім заказе і па маёй ідэі. Асоба Міхала Клеафаса Агінскага сусветна вядомая, таму опера будзе хадзіць па свеце. На маю думку, Маладзечна па праву можна назваць культурнай сталіцай года.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Рыгор Сарока падчас пастаноўкі оперы “Яўгеній Анегін”.

### Самыя знакамітыя выпускнікі Маладзечанскага музычнага каледжа

1. **Юры Антонаў** – савецкі і расійскі кампазітар, эстрадны спявак і паэт. Народны артыст Расіі. У 1963-м скончыў Маладзечанскі музычны каледж па класе акардэона.
2. **Аляксандр Ціхановіч** – беларускі эстрадны спявак, былы ўдзельнік ансамбля “Верасы”. Народны артыст Беларусі.
3. **Алег Елісеенкаў** – беларускі кампазітар і выканаўца, дацэнт кафедры мастацтва эстрады Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. У 1973 годзе скончыў Маладзечанскі дзяржаўны музычны каледж імя Агінскага па спецыяльнасці “тэорыя музыкі”.



Алег Елісеенкаў – адзін з выпускнікоў Маладзечанскага музычнага каледжа.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Альфа Рамэа-146, 1996 г.в., 1,6 Б, выдатны стан, 3900 у.а. Т. (8-025) 6497195.

• Аўдзі А-3, 2009 г.в., 1,4 Б, універсал, 7900 еўра. Т. МТС 8125890.*

• Аўдзі А-6, 1994 г.в., 2,0 газ-бензін, універсал, бардовы, 7500 у.а. Т. (8-029) 9936061.

• Аўдзі-80, 1991 г.в., 1,8 бензін. Т. (8-044) 7400166.*

• БМВ 520 IE 34 кузаў M50, 1990 г.в., па запчастках: БМВ 525Е 34 кузаў, 1989 г.в., бензін; БМВ 518, 1985 г.в.; БМВ 524, 1987 г.в., турба-дызель. Т. Вэлком (8-029) 9962115, МТС (8-029) 7650682.

• ВАЗ 21053, 1996 г.в., 1,5 газ-бензін, на запчасткі, нядорага. Т. МТС (8-029) 5078439.

• ВАЗ 2106, 1992 г.в. Т. МТС (8-029) 8235519.

• ВАЗ 2106, 1999 г.в., 1,6 Б, 800 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 2643465.

• ВАЗ 2107, 1984 г.в., добры стан, 1350 у.а., торг, Радашкавічы. Т. (8-029) 7080117.

• ВАЗ 2109, 1992 г.в., бензін, чырвоны, 1300 куб.см, 1650 у.а. Т. (8-025) 9939653.

• ВАЗ 21093, 1993 г.в., 1,5 газ-бензін. Т. МТС 8707792.*

• ВАЗ 21099, 1994 г.в., 1,5 бензін, бардовы колер, 1149 у.а. Т. (8-029) 2648846, (8-029) 9402665.

• ГАЗ 3110, 1999 г.в., газ-бензін, італьянская ўстаноўка, зялёны колер, не гнілая, 5 КПП, ц/з, г/узмацняльнік руля, сігналізацыя, л/д, пярэднія эл/шклопад'емнікі, 1200 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 3125505.

• ГАЗ 3302 (Газэль). Т. (8-029) 5509642.

• Жыгулі, танна. Т. (8-044) 4833764.*

• Івека па запчастках. Т. (8-029) 6420337, (8-029) 1490002.*

• Кіа Сід, 2008 г.в., 1,4 Б, універсал, сіні. Т. (8-044) 7730920.*

• КРАЗ-256 Б, на запчасткі. Т. (8-029) 5717467.*

• Мазда 626, 1992 г.в., 2,0 Д, серабрысты металік, 2800 у.а. Т. (8-029) 3496325.

• Мерседэс 124, 1988 г.в., 2,0 Д, 4МКПП, седан, цёмна-зялёны, 3200 у.а. Т. (8-029) 6847035.

• Мерседэс 250 Д, 1987 г.в., седан, металік, 3900 у.а. Т. Вэлком 6333896.

• Мерседэс Бэнц 815 "Атэга", 2001 г.в., фургон з гідрабортам 7 м, 5 т, знаходзіцца на мяжы, 10250 у.а. Т. (8-029) 9958598.

• Мікрааўтобус Нісан Інтэрстар, 2003 г.в., 8 месцаў, 15500 у.а. Т. (8-044) 4764015.

• Опель Астра G, 1998 г.в., 2,0 DTL, хэтчбэк. Т. (8-044) 7428704.*

• Опель Астра, 1992 г.в., 1,4 бензін, мона, белы, 3-дзвярэй. Т. Вэлком (8-029) 6887297.

• Опель Астра, 1997 г.в., 1,7 ТД, добры стан. Т. (8-029) 5084706.

• Опель Аскона, 1987 г.в., бензін, чырвоны, 1800 куб.см, 1600 у.а. Т. (8-029) 9168535.

• Опель Зафіра, 2005 г.в., 1,6 г/б (прапан), 10700 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 2780058, Вэлком (8-029) 1613198.

• Пасат В-3,1988 г.в, 1,8 бензін, белага колеру, 3300 у.а., торг магчымы, Вілейскій р-н. Т. (8-033) 6642923.

• Пежо-406, 1997 г.в., 1,9 ТДІ, МКП, ABS, добры стан. Т. МТС (8-029) 7625731.

• Пежо-406, 2001 г.в., 2,0 дызель, седан, серабрысты, 6600 у.а. Т. (8-029) 9936051.

• Пежо 605, 1993 г.в., 2,0 ТДІ, 2349 у.а. Т. (8-029) 2648845, (8-029) 9402665.

• Рэно Гранд Эспэйс, 1998 г.в., 2,2 ДТ, 7 месцаў, без праблем. Т. (8-029) 3441528.

• Рэно Меган, 1997 г.в., 1,4 Б, хэтчбэк, Смаргонь. Т. (8-029) 2664635.

• Сітраэн С3, 2008 г.в., серабрысты, дызель, 1400 куб.см. Т. (8-029) 2520834.

• Сітраэн С5, газ-бензін, 2001 г.в., 2,0, хэтчбэк, 8300 у.а., торг. Т. Вэлком (8-029) 1711152, МТС (8-029) 7530548.

• Сітраэн Эвазіон, 1997 г.в., 2,1 ТД. Т. (8-044) 7539387, (8-029) 7084147.

• Таёта Карына-2, 1991 г.в., 2,0 Д, 2400 у.а., крэдыт. Т. (8-044) 7675581.

• ФВ Гольф-5, 2008 г.в., 1,9 ТД, універсал, серабрысты. Т. (8-029) 6850358.*

• ФВ Джэта, 1984 г.в., 1,6 бензін. Машына пераваранaя і пафарбаваная, Вілейка. Т. (8-029) 8577012.

• ФВ Пасат, 2003 г.в., 1,9 дызель, чорны, універсал, усе опцыі, без праблем, 10700 у.а. Т. (8-029) 7603076, (8-029) 1343209.

• ФВ Т-4, грузавы, 1997 г.в., 1,9 ТД, выдатны стан, 9150 у.а. Т. (8-029) 6666855.*

• Фіят Марэа, 2002 г.в., універсал, 1,9 JTD, сіні, 4700 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1748200.

• Фіят Пунта 2, 2000 г.в., добры стан, 2 камплекты гумы, 5200 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1569569.*

• Форд Мандэа, 1997 г.в., 1,8 ТД, універсал, цёмна-зялёны, Маладзечна. Т. (8-029) 8529973.*

• Форд Транзіт, грузавы, 1991 г.в., 2,5 Д, 3700 у.а.; ГАЗ-3307, бартавы, 3000 у.а. Т. (8-029) 8530262.

• Форд Транзіт, 1991 г.в., 2,3 Д, матор і КПП; Мерседэс, борт 3,2 м. Т. (8-029) 9820207.

• Форд Ф'южы, 2009 г.в., без прабегу па РБ. Т. (8-029) 6887462.*

• Форд Фокус, 2001 г.в., 7000 у.а. Т. (8-033) 6677326.

• Форд Эскорд, 1998 г.в., 1,8 ТД, добры стан, 3000 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 7070169.

• Форд Эскорт, 1992 г.в., аб'ём 1,8, 2000 у.а., магчымы абмен на ваш, магчыма, у няспраўным стане, аварыйным, разгледзім вашы варыянты. Т. (8-029) 6028263.

• Форд Эскорт, 1996 г.в., 1,8 бензін, універсал, цалкам пераварaны, 2700 у.а., торг. Т. (8-029) 2798773.*

• Дыскі літыя ад Сеат Альхамбра, ёсць 2 камплекты, памер R-16. Т. (8-029) 2646099.

• Кабіна МТЗ-80 малая. Т. (8-029) 5683983.

• А/шыны, зіма, б/у, Amtel Novd Mastek, 175/65 R-14 – 2 шт., Continental WINTER Viking 1- 2 шт., 150 тыс.руб. Т. (8-029) 2518150.

• Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., 1,9 ТД; Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП; ФВ Т5, 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП; "MB Vito", 2006 г.в., 2,2 СДі, МКПП; "Suzuki Grand Vitara", 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП; "Таёта Камры", 2003 г.в., 2,4 S, АКПП; "Honda CR-V", 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод; "Гранд Чарокі", 2000 г.в., 4,7 АКПП; Нісан X Трэйл, 2008 г.в. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*

• Па запчастках: Шкода Форман, 1994 г.в., 1,6 Б, седан, ёсць усё; Форд Скорпіа, 1990 г.в. на запчасткі; рухавік Альфа Рамэа патрабуе рамонту паліўная помпа+фарсункі; Альфа Рамэа. Т. (8-029) 5089644. Мікалай.

• Прычэп да а/м ЗІЛ. Т. (8-029) 5025357, (8-01591) 20772.

• Рухавік (Мерседэс), 2,0 дызель і радыятар. Т. (8-029) 6411527.

• Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.

• Скутэр HORS 054. Т. МТС (8-029) 7724958.

• Сядзенні ад Сеат Альхамбра, 2 шт., нядорага. Т. МТС (8-029) 2646099.

### КУПЛЮ

• А/м аварыйны ці з праблемамі, можна на запчасткі. Т. (8-025) 9432872.*

• А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*

• А/м у любым стане. Т. (8-029) 7703397.*

• Аўдзі, Фольксваген, Сеат у любым стане. Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*

• Аўто, іншамарку, не старэйшыя за 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*

• Аўто, любое, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*

• А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.

• Волгу ў добрым стане. Т. (8-029) 5841760.

• Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*

### ПАСЛУГІ

• **РАМОНТ ТУРБІН**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

### ІНШАЕ

• **АЎТАРАЗБОРКА РЭНО. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ.** ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры горада. Т. (8-029) 7539055.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Незалежнасці, 5-паверх 5-павярховага дома. Т. (8-029) 5547046.*

• 3-пакаёвая кватэра па вул.Замкавай, пасля рамонту, 5-павярховы дом, 1-паверх, 52 000 у.а. Т. 6888111, (8-0172) 562744.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, агульная плошча 60,9 кв.м. Т. (8-029) 5679187.

• 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 1 паверх. Т. (8-029) 7577773.*

• Гараж у ГБК-1 у Вілейцы. Т. (8-029) 7099991.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Дача паблізу Віліі. Т. (8-033) 6068147.*

• Дача СТ "Металіст" (в.Аляхновічы). Т. (8-029) 1642293.*

• Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.

• Дом у в.Дубова 12,5х5,6. Т. (8-029) 5844749.

• Дом драўляны, недабудаваны ў а.г.Гервяты Астравецкага р-на на беразе р.Лоша, зямельны участак 0,25 га. Т. (8-01591) 35740, (8-029) 9118923, (8-044) 4530348.

• Дом драўляны з выгодамі, 70 кв.м, ёсць склеп, лазня, сад, сажалка, участак 27 сотак, побач чыгуначная станцыя, 15000 у.а., Мядзельскі р-н. Т. (8-029) 9507913, (8-033) 6623876.

• Дом недабудаваны ў Вілейцы па вул.Меліяратараў. Т. (8-029) 7757392.

• Дом у в.Дзесятнікі (10х6), Валожынскі р-н, 40 сотак, калодзеж, склеп, хлеў, лазня, сад, 60 км ад Маладзечна, 500 м ад ст.Багданаў. Т. (8-01772-) 45375, (8-029) 9104497.

• Дом у в.Мароські, вул.Цэнтральная, 0,25 сотак. Т. (8-0176) 766249, (8-0176) 720228.

• Дом у Смаргоні, 80 кв.м, 15 сотак. Т. (8-029) 1501921.

• Дом цагляны ў Маладзечне, 1 паверх, 120 кв.м, гараж з ямай, 2 хлявы, летняя кухня, лазня, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, выгоды ў доме, участак 15 сотак, магчымы абмен, разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 3535964.*

• Паўдома ў Вілейцы. Т. (8-033) 3727750.*

• Частка дома ў Вілейцы, вул.Маркава, 51. Ацяпленне пячное, 12800 у.а. Т. (8-033) 3876837.*

### КУПЛЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5057676.

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 8594682.

• Дом, частку дома ў любым месцы Вілейскага р-на з наяўнасцю дакументаў на дом, да 2000 у.а. Т. (8-033) 3876837, (8-01771) 23447.*

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую ў Вілейцы па вул.Незалежнасці. Т. (8-029) 2547579.*

• Дом, участак 17 сотак на 1 ці 2 кватэры ў Смаргоні. Т. (8-01592) 22172 (пасля 21.00).

### ЗДАМ



• Кватэру на суткі, гадзіны ў Маладзечне, цэнтр. Хуткае засяленне, канфідэнцыяльна. Камфорт, утульнасць, акуратна. Камандзіраваным справаздачныя дакументы. ІП Гардовіч А.А. УНП 691506689. Т. Лайф (8-025) 7891016.*

• Памяшканне ізаляванае ў арэнду ў будынку магазіна, Вілейка. УНП 690250951. Т. (8-029) 5551515.*

### НАЙМУ

• 1-2-пакаёвую кватэру для маладой сям'і з 3-чалавек. Т. МТС (8-033) 3835679.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры для маладой сям'і на працяглы тэрмін. Т. Вэлком (8-029) 1634846.

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул.В.Гасцінец на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 8624884.

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне для сям'і з 3-х чалавек. Чысціню і аплату гарантуем. Т. (8-029) 2568891.*

• 2-3-пакаёвую кватэру ў любым р-не Вілейкі для маладой сям'і з дзецьмі. Т. МТС (8-033) 6622551, Вэлком (8-025) 9640064.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ПРАКУРАТУРА, СУД

# П'янае кіраванне двойчы

**ВІЛЕЙКА. Мужчыну другі раз за год затрымалі п'яным за рулём.**

19 верасня на выязным судовым пасяджэнні ў будынку дарожна-будаўнічага ўпраўлення №13 дарожна-будаўнічага трэста-5 у Вілейцы разгледзелі крымінальную справу па абвінавачванні жыхара Мінска Р. Ён не працуе, раней не быў судзімы. Яго абвінавацілі ў тым, што кіраваў транспартным сродкам пасля таго, як у гэтым жа годзе атрымаў адміністрацыйнае спагнанне за такое ж парушэнне.

Р. 10 жніўня каля 18 гадзін ехаў на сваім "Фольксвагене-Пасаце В5" каля вёскі Рэдзькавічы на дачу нецвярозы. Пры гэтым толькі месяц таму яго ўжо прыцягвалі да адказнасці за кіраванне машынай у нецвярозым стане.

Крымінальную справу разгледзеў суд Вілейскага раёна з удзелам прадстаўніка пракуратуры Вілейскага раёна. Пры разглядзе былі работнікі дарожна-будаўнічага ўпраўлення №13 ДБТ-5.

Дзяржаўны абвінаваўца, прадстаўнік пракуратуры Вілейскага раёна, папрасіў прызначыць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспарту, на пяць год са штрафам у 300 базавых велічынь (30 мільёнаў рублёў).

Суд прызнаў абвінавачанага вінаватым і асудзіў яго, згодна з пакараннем, прапанаваным дзяржаўным абвінаваўцам.

На аўтамабіль "Фольксваген-Пасат В5" наклалі арышт. Калі Р. у тэрмін не выплаціць штраф, машыну прададуць, а атрыманыя грошы пойдуць на пакрыццё прызначанага штрафу.

Санкцыі па артыкуле 317-1 Крымінальнага кодэкса прадугледжваюць і больш жорсткія меры пакарання: арышт тэрмінам да шасці месяцаў з пазбаўленнем правоў на пяць год. Да ўвагі суд прыняў змякчальную акалічнасць – раскаянне ў здзейсненым злачынстве.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ, намеснік пракурора Вілейскага раёна.**

СЛУЖБА 101

# Палаюць пажары. Ёсць ахвяры

**ВІЛЕЙКА. У пятніцу, 20 верасня, а трэцяй гадзіне ночы ў службу Вілейскага РАНС патэлефанавала ўсхваляваная жанчына з вёскі Ярмолічы і сказала, што ў суседа гарыць дом.**

– Сказала яшчэ, што магчыма там ёсць чалавек, – распавядае інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Вілейскага раёна **Аляксандр Казакевіч**. – Мы адразу ж выехалі на месца пажару. Калі прыехалі, было ўжо позна. Дом і хлеў палалі.

– У хаце, каля дзвярэй, мы знайшлі 52-гадовага мужчыну. Ён ляжаў на жываце, тварам ўніз і не падаваў ніякіх прыкмет жыцця, – дадае Аляксандр Казакевіч.

Вечарам таго ж дня мужчына дапамагаў сваім знаёмым капаць бульбу, таму, магчыма, быў нецвярозы. Па словах суседзяў, гаспадар любіў выпіць і пакурыць.

Мужчына жыў адзін, яго жонка памерла некалькі год таму.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**МЯДЗЕЛ. 20 верасня пасля 18-ці гадзін мядзельскім выратавальнікам паступіла паведамленне аб загаранні дома ў Занарачы.**

На тушэнне пажару накіраваліся аўтацыстэрны: тры з Мядзельшчыны і адна з Вілейшчыны.

– Па прыбыцці выратавальнікаў драўляны дом гараў адкрытым полымем, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду **Андрэй Сакалдынскі**. – У выніку пажару дом згарэў. Гаспадара ў момант загарання не было дома.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

## Пакрыўдзілася на мужа і ўдарыла нажніцамі ў спіну

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося ў нядзелю ноччу, 22 верасня ў вёсцы Захажэва, Валожынскага раёна.**

– Па папярэдніх дадзеных, муж і жонка пасварыліся з-за неабабранай бульбы, – кажа начальнік Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Віталь Юрэвіч**.

Жанчына пакрыўдзілася на 49-гадовага мужа, схапіла нажніцы, падышла ззаду і ўдарыла яго ў спіну. Нажніцы закранулі правае лёгкае. Жанчына спалохалася і сама выклікала "хуткую дапамогу".

**Вольга ЮРКЕВІЧ**

ШКОЛА

## Дзелімся дабрынёй

**МАЛАДЗЕЧНА. Незвычайная акцыя адбылася на гэтым тыдні ў гімназіі №10. Гімназісты і настаўнікі дзяліліся адзін з адным усмешкамі, цеплынёй, добрым настроем.**

Ініцыятарам такога мерапрыемства ўжо некалькі гадоў з'яўляюцца педагогі- псіхолагі і сацыяльныя педагогі.

Расказвае **Алена Насевіч**, сацыяльны педагог:

– Такія акцыі мы традыцыйна прымяркоўваем да дэкады прафілактыкі суіцыду сярод дзяцей і падлеткаў. Наша задача задзейнічаць як мага больш дзяцей, паказаць, што якая б ні была сітуацыя, дзіця не застанецца са сваім праблемамі сам-насам. Ад раніцы на ганку мы пускалі мыльныя бурбалкі. Настрой узнімаецца на ўвесь дзень. Дзецям прапанавалі сфатаграфавацца ў імправізаванай фотастудыі, каб іх усмешка яшчэ доўгі час упрыгожвала школьныя стэнды. Маленькія гімназісты гулялі ў "Парашут", старэйшыя малявалі рамонкі з пажаданнямі.

**Наталля ТУР.**

УВАГА! ВЫШУК

## Дапамажыце знайсці Алену Барэйку

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае без вестак зніклую Алену Мікалаеўну Барэйку.**

Яна нарадзілася 10 сакавіка 1977 года. За-



рэгістраваная па вуліцы Міхася Чарота, 5.

4 верасня паехала з дома па вуліцы Прыазёрнай у Селівонаўцы Маладзечанскага раёна ў Алёхнавічы. Дзе яна цяпер, невядома.

Яе прыкметы: 36 год, рост каля 160 сантыметраў, хударлявая. Круглы смуглы твар. Вялікія карыя вочы. Прамыя цёмна-русыя кароткія валасы. Звонкі голас і яснае маўленне.

Пераканаўча просім усіх, хто штосьці ведае пра месца знаходжання Алены, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: 8(0176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці па тэлефоне 102.

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Засвяціся ў цемры!

МІНШЧЫНА. Дзяржаўтаінспекцыя вобласці 27 верасня праводзіць дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Засвяціся ў цемры!"

Просім пешаходаў паначапць сябе святлоадбівальнымі элементамі, калі рухаецеся ў цёмны час сутак.

**ДАІ.**

АДУКАЦЫЯ

# Беларусь за бортам Балонскай сістэмы адукацыі

**Ад Маладзечна да Вільні – нейкія паўтары гадзіны на цягніку. Але 120 кіламетраў паміж гэтымі гарадамі могуць падацца прорвай. Менавіта такую прорву можна пабачыць, калі параўнаць свет адукацыі: беларускі і літоўскі.**

Да прыкладу, невялічкая задачка: у Беларусі пражывае крыху менш за 10 мільёнаў чалавек, у Літве – каля трох. За год 70 беларускіх студэнтаў паехала на два семестры ў замежныя ўніверсітэты па праграме мабільнасці. Літоўскіх студэнтаў па той жа праграме паехала 3,5 тысячы.

Пытанне: чаму студэнтаў у нас выехала ў 50 разоў менш, калі насельніцтва ў тры разы больш?

Заслону ў балонскі свет навукі і асветы прыўзнімае сябра Выканаўчага камітэта Еўрапейскага саюза студэнтаў (ЕСС) **Максім Мілто**.

**Беларусь – адна з чатырох краін Еўропы, разам з Манака, Косава і Сан-Марына, якая не далучылася да Балонскага працэсу. Наша краіна стала першай, якой адмовілі ва ўступленні.**

Нацыянальная арганізацыя Саюз студэнтаў Літвы прадстаўляе інтарэсы 120 тысяч студэнтаў краіны.

Усяго ў Літве 160 тысяч студэнтаў, таму інтарэсы астатніх прадстаўленыя ў саюзе праз лакальныя студэнцкія самакіраванні ці прадстаўніцтвы. Яны ёсць у кожнай з 47 вышэйшых школ краіны.

Аднак у Еўропе вышэйшая адукацыя рэгламентуецца і міжнароднымі нормамі, закладзенымі ў Еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі. Таму ўжо больш за 30 гадоў існуе Еўрапейскі саюз студэнтаў. Ён аб'ядноўвае 47 нацыянальных саюзаў з 39 краін.

### Стаўленне да адукацыі

У Літве, як і ў Беларусі, студэнты досыць маладыя. Сярэдні ўзрост – каля 22 гадоў. У некаторых краінах, напрыклад, як Нарвегія, сярэдні ўзрост студэнтаў – 26 гадоў, а ў пэўных універсітэтах – 29 гадоў.

Чаму так адбываецца?

– Стаўленне да вышэйшай адукацыі такое, што, калі ты скончыў школу і не пайшоў ва ўніверсітэт ці калегію, "нешта не так", – разважае Максім Мілто. – Я вельмі радуюся таму, што ў Літве гэта пачынае мяняцца. Некаторыя выпускнікі школ бяруць "вольны год", але гэта пакуль не так папулярна. Практычна арыентаваная адукацыя, напрыклад, у калегіях, вельмі прыстасаваная да рынку працы. Але большая частка адразу ідзе атрымліваць універсітэцкую адукацыю, навукова арыентаваную.




КАЛАЖ Настассі РОЎДЫ.

Беларусь – адна з чатырох краін Еўропы, якая не далучылася да Балонскага працэсу.

### Што робіць адукацыю якаснай: 1. Ацэнка навучальных праграм

Калі ўніверсітэт плануе запусціць новую навучальную праграму, неабходна, каб Цэнтр забеспячэння якасці ў вышэйшай адукацыі ці адно з акрэдытацыйных агенцтваў яе ацанілі і акрэдытавалі на поўны ці скарочаны цыкл.

Праграмы могуць акрэдытаваць і замежныя агенцтвы. Дзякуючы гэтаму працэс акрэдытацыі становіцца больш празрыстым. Дарэчы, у ім заўжды ўдзельнічаюць студэнты.

### 2. Акрэдытацыя вышэйшых школ

ЕСС дамогся таго, што адным з асноўных крытэрыяў для ацэнкі вышэйшых школ па ўсёй Еўропе будзе "вучоба, арыентаваная на студэнта". Гэта значыць, што менавіта студэнт арганізоўвае навучальны працэс. Такі падыход патрабуе іншага фармату як практычных заняткаў, так і самога выкладання.

Для акрэдытацыі ўстановы ствараюць камісію, у якую ўваходзяць студэнты. Калі вышэйшая школа задавальняе ўсе патрабаванні, яе акрэдытоўваюць на шэсць год. Калі ёсць заўвагі – на тры.

### 3. Акрэдытацыя агенцтваў

Агенцтвы, якія акрэдытуюць навучальныя праграмы і вышэйшыя школы, таксама павінны пацвердзіць якасць сваёй працы.

Гэта значыць, існуе вельмі збалансаваная сістэма кантролю кожнага.

У Беларусі акрэдытацыі праводзіць Міністэрства адукацыі. Гэта сістэма падаецца некарэктнай хаця б з-за таго, што ў ёй няма ніводнага незалежнага агенцтва, якое б магло незаангажавана ацаніць праграмы і ўстановы адукацыі і з фінансавага боку, і з боку прыняцця рашэнняў.

### Калі рэктару за 65 гадоў

Калі ў вышэйшай школе на вакансію прэтэндуе выкладчык, узрост якога больш за 65 гадоў, у многіх краінах яго прымаюць на працу са згоды лакальнага студэнцкага самакіравання. Гэта тычыцца і педагогаў, якія мяркуюць заняць кіруючую пасаду.

Аднойчы ў Літве рэктар праігнараваў гэта, і студэнцкае прадстаўніцтва пайшло ў суд супраць універсітэта і выйграла справу.

Рэктар мусіў пайсці ў адстаўку.

**Даведка "РГ".**
**Выканаўчы камітэт ЕСС.** Дзесяць абраных сяброў, якія прадстаўляюць інтарэсы арганізацыі цягам года. Потым іх пераабіраюць.
**Балонскі працэс.** Працэс збліжэння і гарманізацыі сістэм вышэйшай адукацыі краін Еўропы з мэтай стварэння адзінай еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. У краінах Балонскага працэсу яе можна атрымаць пасля заканчэння ўніверсітэта, акадэміі, семінарыі ці калегіі. Калегія – гэта практычна арыентаваная вышэйшая неўніверсітэцкая адукацыя.

# "Размус": "Стыпендыя большая, чым заробак у маці"



**Святлана Васілевіч з Гродна паступіла ў Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт на праграму "Міжнароднае права" летась.**

Год адвучылася ў Вільні, а сёлета ў кастрычніку па праграме мабільнасці паедзе на год у нямецкі Еўрапейскі ўніверсітэт Віядрына. Ён знаходзіцца ў 100 кіламетрах ад Берліна.

– Вельмі цікавая ўстанова для студэнтаў юрыдычных спецыяльнасцяў, – тлумачыць свой выбар Святлана. – Ёсць магчымасць вывучаць і нямецкае, і польскае нацыянальнае права.

**– Як атрымалася паўдзельнічаць у "Размусе"?**

– Здаецца, у мяне было трошкі больш жадання. Трапіць на гэту праграму зусім не складана. Трэба мець бал, не ніжэйшы за васьмёрку, і валодаць замежнай мовай. Самае складанае – сабраць усе паперы, бо іх вельмі шмат. Дарэчы, разам са мной у праграме бяруць удзел яшчэ дзве дзяўчыны з маёй групы.

**– Ці ведаеш, дзе будзеш жыць і якой будзе стыпендыя?**

– Пытанняў з пражываннем няма: усе могуць атрымаць пакой ў інтэрнаце, прычым ён заўсёды аднамесны. Але ж плаціць за яго трэба каля 200 еўра. Па беларускіх мерках, стыпендыя ў мяне велізарная! Нават большая за заробак маёй маці, якая працуе настаўніцай. Атрымліваецца каля 450 еўра ў месяц. Але ж для жыцця ў Германіі гэтых грошай не хопіць, таму бацькам усё адно прыйдзецца дапамагаць мне. Праўда, гэта будзе 100-150 еўра у месяц і толькі ў тым выпадку, калі я не буду падпрацоўваць. Студэнт у Германіі мае права на 120 поўных працоўных дзён у год. Спадзяюся, што буду жыць без дапамогі бацькоў.

**– Што для цябе значыць удзел у праграме мабільнасці?**

– Па-першае, магчымасць авалодаць замежнай мовай на вельмі добрым узроўні. Па-другое, новыя знаёмствы. Па-трэцяе, іншыя падыходы да навучання. Я не першы раз удзельнічаю ў розных адукацыйных праграмах ў Еўропе. І ўжо магу казаць аб тым, як добра мець сяброў па ўсім свеце.

**– Ці няма боязі ехаць адной у невядомую краіну?**

– Год таму з'ехала ў Літву, тады для мяне гэта была таксама невядомая краіна. Цяпер я, наадварот, чакаю гэтага.

**– Ці быў выбар універсітэтаў, у якія можна паехаць вучыцца?**

– Універсітэтаў было шмат, амаль у кожнай краіне Еўропы. Я разглядала толькі варыянты ў Германіі. Сярод універсітэтаў гэтай краіны быў выбар паміж трыма ці чатырма. Шмат студэнтаў абіраюць Іспанію, Кіпр, Італію ды іншыя цёплыя краіны.

АДУКАЦЫЯ

# Балючае пытанне: дыскрымінацыя

**Што за пытанні, якія ігнаруюць медыя, турбуюць Еўрапейскі саюз студэнтаў? Па якой прычыне Беларусь не далучылі да Балонскага працэсу? Разважае сябра Выканаўчага камітэта Еўрапейскага саюза студэнтаў (ЕСС) Максім Мілто.**

Еўрапейскі саюз студэнтаў працуе па трох асноўных накірунках.

### Накірунак першы: студэнты ў кіраванні адукацыяй

У краінах Балонскага працэсу студэнты ўдзельнічаюць не толькі ў кіраванні ўніверсітэтаў, але і ў прыняцці рашэнняў міністэрстваў, парламенцкіх камітэтаў і самога парламента.

Да міністэрскіх канферэнцый ЕСС рыхтуе справаздачу "Балонскі працэс вачыма студэнтаў". У ёй сабраныя дадзеныя ад 47 нацыянальных Саюзаў студэнтаў наконт таго, ці рэалізаваны Балонскі працэс у кожнай з краін.

Калі міністры ў справаздачы бачаць, што іх краіна пазначаная чырвоным колерам, яны мусяць варушыцца і штосьці мяняць.

### Накірунак другі: мабільнасць і празрыстасць

Балонскі працэс грунтуецца на трох ступенях:

**1. Сістэма трох цыклаў: бакалаўр, магістр, доктар.**

У Беларусі паміж магістратурай і дактарантурай ёсць дадатковае звяно – аспірантура.

**2. "Крэдытная" сістэма адукацыі.**

Яна прадугледжвае, што студэнты не здаюць агульнапрынятую сесію, а атрымліваюць "крэдыты" па выніках сваёй працы за навучальны год. Крытэрыямі ацэнкі для выкладчыкаў з'яўляюцца колькасць наведаных лекцыйных і практычных гадзін па прадмеце, а таксама час самападрыхтоўкі студэнта.

**3. Мабільнасць**

У Літве ў праграме мабільнасці летась паўдзельнічалі 3,5 тысячы студэнтаў.

– І гэта добра, – лічыць Максім. – Бо, па-першае, выкладчыкам трэба павышаць уласную кампетэнцыю. Па-другое, студэнт можа параўнаць уласны ўніверсітэт з замежным. Па-трэцяе, развіваюцца міжкультурныя камунікацыі. І чацвертае, павышаюцца здольнасці студэнтаў да адаптацыі ў межах рынку працы.

Праграма існуе ўжо 25 гадоў. Больш за тры мільёны студэнтаў Еўропы ўжо скарысталіся такой магчымасцю. Гэта каля 120 тысяч чалавек за год.

Дарэчы, існуюць праграмы мабільнасці і для выкладчыкаў.

Што мы бачым у Беларусі: мабільнасць замаруджаная. Так, беларусы ўдзельнічаюць у праграме "Эразмус-Мундус", створанай для краін не-еўрапейскага саюза, але выязджае каля 70 студэнтаў у год. Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, летась у краіне вышэйшую адукацыю атрымлівала амаль 430 тысяч студэнтаў.

У Вільні толькі ў ЕГУ, дзе дзве тысячы студэнтаў, у праграме мабільнасці за год паўдзельнічалі тыя ж 70 чалавек.

Затое ў Беларусь прыязджаюць студэнты з іншых краін, – звяртае ўвагу Максім Мілто. – Што добра, бо гэта робіць адукацыю больш разнастайнай і адкрытай. Аднак, пакуль разам з гэтым не павышаецца якасць адукацыі, не ўдасканальваюцца формы навучання, іншымі словамі, пакуль працягваецца стагнацыя, значных змен у беларускай адукацыі нельга чакаць.

### Накірунак трэці: дыскрымінацыя

ЕСС ад часу стварэння працуе над тым, каб гендэрныя, фізічныя, сэксуальныя і іншыя адрозненні не былі бар'ерам для доступу да вышэйшай адукацыі.

**Саюз студэнтаў Літвы – адзіная арганізацыя ў суседняй краіне, якая займаецца даследаваннем становішча студэнтаў са спецыяльнымі патрэбнасцямі ў вышэйшай адукацыі.**

Летась са 160 тысяч студэнтаў Літвы усяго 1,2 тысячы былі са спецпатрэбнасцямі.

Палова з іх вучыцца ў чатырох вышэйшых школах, хаця ў краіне іх 47. Гэта значыць, што толькі яны стварылі дастатковыя ўмовы для таго, каб студэнты са спецпатрэбнасцямі маглі атрымліваць вышэйшую адукацыю. Гэта вельмі балючае пытанне, якое ігнаруецца медыямі і самімі міністэрствамі.

### Беларусь: студэнтаў ігнаруюць з-за іх пазіркаў

– На жаль, у Беларусі студэнтаў часта выключаюць з вышэйшых навучальных устаноў з-за іх палітычных пазіркаў ці за ўдзел у грамадскіх арганізацыях, – адзначае Максім.

Гэта была адна з асноўных прычын, чаму заяўку Беларусі на ўступленне ў Балонскі працэс скасавалі падчас пасяджэння працоўнай групы па Балонскім працэсе ў Капенгагене летась.

ЕСС удзельнічаў у тым пасяджэнні, і яго пазіцыя была такая: да таго часу, пакуль студэнты пераследуюцца з-за іх палітычных меркаванняў і за ўдзел у грамадскіх арганізацыях, Беларусь не можа стаць часткай Балонскага працэсу.

Другая прычына, па якой заяўку скасавалі, была ў тым, што Беларусь не рэгламентуе ўдзел студэнтаў у кіраванні вышэйшай адукацыяй.

Трэцяя – у краіне няма празрыстасці ў акрэдытацыі навучальных праграм.

– Але гэта не значыць, што краіна не можа падаць заяўку паўторна, – адзначае Максім. – Тады яна будзе разглядацца падчас міністэрскай канферэнцыі 2015 года ў Ерэване. Гэта балючае пытанне, якое трэба вырашыць. Балонскі працэс створаны для таго, каб зрабіць вышэйшую адукацыю гарманізаванай. Ігнараванне пэўнай краіны супярэчыць мэце Балонскага працэсу. Але, з іншага боку, калі краіна не выконвае пэўныя базавыя патрабаванні, яе немагчыма ўключыць. Вось дылема, якую трэба вырашыць.

### Ігнараванне неперспектыўнае

Калі пэўныя краіны ігнаруюць тое, што адбываецца навокал ці спрабуюць схаваць сябе абасобіць, не думаю, што ў гэтым ёсць перспектыва як для грамадства, так і ўвогуле для прагрэсу краіны, – мяркуе Максім Мілто. – У Беларусі трэба нешта мяняць у вышэйшай адукацыі, і гэта не можа абмяжоўвацца прыняццем кодэкса аб адукацыі ці яго зменамі. Гэта фармальнасці, і толькі.

Я не прымаю тое, што ў Беларусі вышэйшая адукацыя разглядаецца ўладамі ды і самімі ўніверсітэтамі як штосьці, што не патрабуе значных высілкаў і змен. Мноства выклікаў сучаснасці проста ігнаруюць і таму не развіваюцца.



**Максім Мілто.**

Нарадзіўся ў Вільні ў літоўскай сям'і. Бацькі пераехалі ў Мінск, дзе Максім скончыў архітэктурна-мастацкую гімназію №75. Пасля вярнуўся на радзіму і скончыў бакалаўрскую праграму па культурнай спадчыне і турызме ў ЕГУ з чырвоным дыпломам. Быў прэзідэнтам студэнцкага прадстаўніцтва ва універсітэце да лютага 2012 года. Да ліпеня 2013 года – віцэ-прэзідэнт у Саюзе студэнтаў Літвы, працаваў з міжнародным прадстаўніцтвам. Пасля яго абралі адным з сябраў Выканаўчага камітэта ЕСС. Ад верасня пачаў вучобу ў магістратуры Інстытута міжнародных адносін і палітычных навук у Віленскім універсітэце па праграме "Даследаванне ўсходняй Еўропы і Расіі".

Старонкі "беларусь-еўрасаюз" падрыхтавала



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

# Маладзечанскі школьнік паехаў у нямецкую гімназію

**МАЛАДЗЕЧНА. Арсеній Макей – 15-ы вучань маладзечанскай сярэдняй школы №5, які паехаў вучыцца ў Хайнберг-гімназію нямецкага горада Гётынген.**

15-гадовы дзесяцікласнік паехаў вучыцца па праграме "Стыпендыят" фонду ўсходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене.

– Наша школа – адзіная ў Беларусі, якая ўдзельнічае ў гэтай праграме, – заўважае настаўніца нямецкай мовы сярэдняй школы №5 **Зоя Дылеўская**. – Першы вучань паехаў у Германію яшчэ ў 97-м годзе. Здарылася так, што, калі да нас у школу прыехалі госці з Германіі, хлопец вылучыўся з усіх. і нямецкая сям'я захацела ўзяць яго да сябе пажыць. Тады Хайнберг-гімназія прапанавала яму на гэты час вучыцца ў іх.

У праграме ўдзельнічаць вучні 9-10 класаў. Калі немцы прыязджаюць у школу, яны пытаюцца, хто б хацеў паехаць да іх. Потым назіраюць, як ахвотныя вядуць сябе на занятках, размаўляюць з імі, прапануюць запоўніць анкету: "Чаму я хачу быць стыпендыятам".

З усіх выбіраюць аднаго і ўручаюць яму запрашэнне.

Арсеній даведаўся, што выбралі яго ў красавіку. Паехаў жа разам з нямецкай дэлегацыяй у верасні. Праводзіць яго прыйшоў увесь клас.

– У гарадзе Гётынген, як і ў Маладзечне, каля 100 тысяч жыхароў, – распавядае спадарыня Зоя. – У сям'і, дзе будзе жыць Арсеній, двое дзяцей. Малодшая дачка ўдзельнічала ў праграме абмену летась. А старэйшы ўдзельнічае сёлета, ён з'ехаў у Англію.

**– А ці добра Арсеній ведае мову, каб вучыцца ў Германіі?**

– Спачатку, канешне, будзе цяжкавата. Асабліва з такімі прадметамі, як матэматыка ды фізіка, дзе і так не ўсе назвы зразумелыя. Аднак размоўны ўзровень нямецкай у яго нядрэнны. Яму яшчэ давядзецца вывучаць і два прадметы, якіх няма ў нашай школьнай праграме: рэлігію і мастацтва.

**– Як мяркуеце, што дае ўдзел у такой праграме?**

– Па-першае, вельмі добры ўзровень мовы. Звычайна пасля такіх выездаў вучні займаюць прызавыя месцы на моўных алімпіядах. А месца на рэспубліцы – гэта альбо аўтаматычнае паступленне ў лінгвістычны ўніверсітэт, альбо 100 балаў на цэнтралізаваным тэставанні па замежнай мове. Па-другое, Арсеній пабачыць іншую культуру, краіну, уклад у нямецкай сям'і.

Бацькоў Арсенія ўжо запрасілі ў Германію разам з дэлегацыяй са школы, якая штогод наведвае нямецкую гімназію ў красавіку. Родныя змогуць паглядзець, дзе жыў і вучыўся Арсеній, пазнаёміцца з сям'ёй.

Дэлегацыя з Германіі прыедзе ў Беларусь праз год у верасні. У іх ужо ёсць дзве кандыдатуры сярод дзяўчат сярэдняй школы №5 на ўдзел у праграме ў наступным годзе. Каго з іх абяруць – будзе вядома толькі ў красавіку.



Фота Алены ПАРАХНІ.

Аднакласнікі праводзяць Арсенія (у цэнтры з сумкай) на вакзале ў Маладзечне.

АЎТО

# Восеньскае ралі савецкіх аўто

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім раёне 28 верасня пройдзе восеньскае ралі аматарскага чэмпіянату па аўтаралі "Сезон".**

– Праграма ўключае дарожныя спаборніцтвы па маршруце Мінск – Забродззе, – паведаміў старшыня Беларускага клуба аматараў аўтамабіля "Запарожац" **Аляксандр Жос**. – Дадатковыя спаборніцтвы пройдуць на аўтадроме Вілейкі, дзе ўдзельнікі ралі пакажуць сваё майстэрства ваджэння аўтамабіля, а, магчыма, папрактыкуюцца ў тушэнні машыны. На аўтадром экіпажы плануюць прыбыць каля 14 гадзін. З надыходам цемры спаборніцтвы прадоўжацца. Ад спартсменаў спатрэбіцца ўменне арыентавацца на мясцовасці і знайсці зададзеныя арганізатарам аб'екты.

Для аматараў аўтаспорту прадугледжаная культурная праграма: **Барыс Цітовіч** правядзе па пахаваннях воінаў Першай сусветнай вайны, а **Даніла Цітовіч** пакажа ўнікальную калекцыю рарытэтных аўтамабіляў.

– На пачатак тыдня атрымалі каля 15-ці заявак на ўдзел у ралі, – дадаў Аляксандр Жос. – У асноўным гэта аматары аўтаспорту з Мінска, некалькі экіпажаў з Віцебска, а таксама са Слуцка, Полацка, Маладзечна. У ралі прымуць удзел пераважна аўтамабілі вытворчасці СССР (ЗАЗы, ВАЗы, "Масквічы"), а таксама – "замежнікі" (Опелі, Форды, Нісан). Мяркую, цікавасць у гледачоў выклічуць такі "антыкварыят" як "Опель-Адам", "Масквіч-401 кабрыялет", ЗАЗ-965.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ, 2-Я ЛІГА

## Хэт-трык Шаблінскага. Маладзечна перамагло Баранавічы з лікам 3:1

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 22 верасня, адбылася гульня 19 тура чэмпіянату краіны ў другой лізе. Футбольны клуб "Баранавічы" прымаў у сябе ў гасцях футбалістаў з Маладзечна.**

Зоркай гульні можна назваць гульца маладзечанскай каманды **Андрэя Шаблінскага**. Ён на 22 хвіліне матча адкрыў лік з пенальці. А ўжо на 31 хвіліне аформіў дубль у вароты каманды-саперніцы. Першы тайм скончыўся з лікам 2:0 на карысць маладзечанцаў.

І ўжо на 14 (59) хвіліне другога тайма Андрэю Шаблінскаму пашчасціла забіць трэці гол у вароты саперніка.

Голам прэстыжу ў нашы вароты вызначыўся паўабаронца ФК "Баранавічы" Дзмітры Федарцоў. На 73 хвіліне матча канчатковы лік гульні стаў 3:1.

Не абышлося ў гэтай гульні без выдалення. Паўабаронца маладзечанскай каманды **Ілля Ануфрыеў** быў выдалены з поля за зрыў перспектыўнай атакі.

Пасля гэтай гульні каманда "Маладзечна–2013" паднялася на адну пазіцыю і цяпер займае дзявяты радок турнірнай табліцы.

Наступная гульня адбудзецца ў нядзелю, 29 кастрычніка, на гарадскім стадыёне з камандай "Зорка–БДУ".

**Наталля ТУР.**

ВЕСЛАВАННЕ

## Мядзяльчане – у прызёрах

**МЯДЗЕЛ**. Ад 19 па 21 верасня ў Слоніме праходзілі рэспубліканскія спаборніцтвы па веславанні на байдарках і каноэ.

Дзве ўзнагароды заваявала выхаванка Мядзельскай СДЮШАР **Ксенія Жукоўская**: на дыстанцыі 200 метраў яна была другой, а на дыстанцыі 2000 метраў заняла трэцяе месца. **Мікіта Малько** на дыстанцыі 2000 метраў заваяваў "бронзу".

**Аддзел інфармацыі.**



ФУТБОЛ

## "Хімік" – "Смаргонь" – 0:0

**СМАРГОНЬ.** 21 верасня ў Светлагорску адбыўся матч 21-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. ФК "Смаргонь" гуляў з мясцовым "Хімікам". Гледачы галоў не пабачылі: нічыя 0:0.

Пасля гэтага тура "Смаргонь" засталася на сёмым месцы. На рахунку каманды 32 ачкі пасля 21 матча.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хто апярэдзіць Ларысу і выйграе білет на матч "Смаргоні"?

**СМАРГОНЬ. Зноў у сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь" пераможцаў не было.**

Цяпер будзем спрабаваць угадаць лік матча "Смаргонь" – "Ведрыч-97", які пройдзе ў суботу. "Ведрыч-97" у турнірнай табліцы знаходзіцца на чатыры прыступкі ніжэй за "Смаргонь" – на 11-м месцы.

Ваш адказ можаце дасылаць да 12 гадзін 28 верасня (субота) праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook. Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты". Мінулы раз зноў усіх апярэдзіла **Ларыса** – прыз адправіцца ёй.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" саступіла ў прынцыповай гульні

**МАЛАДЗЕЧНА. У 20-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" 22 верасня ў гасцях сустракалася з суседам па турнірнай табліцы – ФК "Узда".**

Гэта каманда ідзе на другім месцы, маладзечанцы – на трэцім. У прынцыповым паядынку футбалісты з Узды былі мацнейшыя – 2:0.

Мноствам галоў парадавалі сваіх балельшчыкаў футбалісты "Забудовы-2007". Каманда з Чысці 21 верасня дома перайграла клуб "Зорка-РФАЦ-Вікторыя" (Пухавіцкі раён) з лікам 6:3.

Па два галы ў складзе "Забудовы-2007" забілі **Марціновіч** і **Мятліцкі**, па адным – Мамай і Лепа, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Вілія" прапускае шэсць галоў

**ВІЛЕЙКА.** У матчы 20-га тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманда "Вілія" 22 верасня сустракалася ў гасцях з "Лівадзіяй-Юні" (Дзяржынскі раён). Віляйчане пацярпелі паражэнне з лікам 0:6.

"Вілія" з дзесяццю ачкамі займае перадапошняе, 12-е, месца.

**Аддзел інфармацыі.**

## У чэмпіянаце новы лідар – "Фламетр"

**ВІЛЕЙКА. У перанесеным матчы чэмпіянату раёна па футболе 21 верасня каманда СВК "Чурлёны" абыграла "Любань" 5:0.**

У гульнях 12 тура 22 верасня "Фламетр" абыграў "Стралу" – 3:0. Каманда "Буддэталі" разграміла лідара – "Першы Беларускі" – з лікам 5:0.

– "Першы Беларускі" быў не ў лепшым складзе, таму перавага "Буддэталяў" была вялікая. У самым пачатку матча яны ўжо вялі 2:0, – паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – А яшчэ ў канцы першага тайма быў выдалены варатар "Першага Беларускага".

Гэта паражэнне каштавала "Першаму Беларускаму" лідарства. Наперад з 25 ачкамі вырваўся "Фламетр". "Першы Беларускі" мае 24 ачкі – праўда, каманда правяла на гульню менш.

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Дарогу ля рэдакцыі пачалі падсыпаць

Ну, нічога ж сабе! Нарэшце, не толькі залатаюць "кар'еры", але і выправяць фундамент дарогі. Малайцы, нарэшце, хтосьці накапаў ім на мозг, а то акрамя падсыпкі нічога не рабілі. Жыў у гэтым двары тры гады, і, як толькі з'ехаў, адразу дарогу робяць.:*Р Пікачу*.

### "На англамоўнага ў Маладзечне глядзяць, як на іншапланецяніна"

"Англамоўныя" гэта яшчэ кветачкі, тут з такімі ж вачыма глядзяць на "беларускамоўнага"... *Пікачу*.

### Скураны абутак шукайце ў крамах

Польскі абутак пераважна якасны, калі польскай вытворчасці, а не Турцыя і Кітай з пераклеенымі лейбламі і новымі каробкамі... Пра беларускі абутак лепш прамаўчаць, мужчынскі яшчэ нічога, а вось жаночы, на жаль, толькі для бабуляў. З такім жа поспехам можна набыць гумовыя паляўнічыя боты, не разваляцца і каштуюць нядорага, а галоўнае, не з рынку! *Пікачу.*

### Лазню на Лясных не зачыняць

Толькі ўздыхнулі чыстым паветрам жыхары Лясных, і вось зноў, калі адновіцца праца лазні, будуць гар і дым, ні дыхнуць. Надта ж комін дыміў: ні фортку адчыніць, ні бялізну пасушыць на балконе ці ў двары, мо, толькі што цяпер шпаламі не будуць паліць. *Viktosь.*

27 ВЕРАСНЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ТУРЫЗМУ

# Маладзечаншчына прыцягвае турыстаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У нашым краі багата чароўных мясцін і традыцый, якія ўдала і ашчадна выкарыстоўваюць гаспадары аграсядзіб, каб прыцягнуць аматараў прыроднага адпачынку.**

Чым можа пахваліцца Маладзечаншчына і над чым яшчэ варта папрацаваць?

Маладзечаншчына мае дастатковы патэнцыял для развіцця турызму. На тэрыторыі раёна 286 аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны, пяць музеяў, мастацкая галерэя, цэнтр рамёстваў, сем санаторыяў, дамоў і баз адпачынку, сем аздараўленчых лагераў, а таксама 11 помнікаў прыроды і тры заказнікі мясцовага значэння, ёсць аб'екты турыстычнай інфраструктуры. Па тэрыторыі раёна праходзіць больш за 15 турысцка-экскурсійных маршрутаў.

Маляўнічыя пейзажы і гасціннасць маладзечанцаў – галоўнае для развіцця сельскага турызму ў раёне. На Маладзечаншчыне працуе 21 аграсядзіба, якая прымае турыстаў. Летась адбылася прэзентацыя сядзібы-галерэі "У Іванавіча", дзе прадстаўлена больш за 600 мастацкіх работ гаспадара сядзібы **Аляксандра Рашэтнікава**.

Вельмі цікавая кластарная мадэль развіцця турызму, у якой аб'ядноўваюць у адзін маршрут сядзібы, музеі, аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны і пры гэтым арганізоўваюць пражыванне, харчаванне, культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

Радуюць новыя сядзібы, якія з'явіліся на Маладзечаншчыне ў гэтым годзе. Напрыклад, у аграсядзібе "У Мароза", што у вёсцы Талуі Маркаўскага сельсавета, знаходзіцца адзіны ў СНД музей сячкарняў. Іх у гаспадара Уладзіміра Мароза аж 87.

Вялікая ўвага ў нашай краіне надаецца экалагічным маршрутам, тым больш, што 2013 год абвешчаны годам зялёнага турызму. Па тэрыторыі Маладзечанскага раёна праходзіць частка міжрэгіянальнага зялёнага маршруту "Зялёнымі сцежкамі ад Іслачы да Віліі". Спартыўны турызм прапагандуе турыстычны клуб "Пілігрым".



Фота Алега БЯГАНСКАГА, "Маладзечанская газета"

Таццяна Ганіч у аграсядзібе "У Мароза".

### Маладзечна часта прымае гасцей

Турыстычная інфраструктура раёна дазваляе развіваць турызм. Турысты прыязджаюць, каб наведаць культурныя і спартыўныя мерапрыемствы.

У жніўні ў Маладзечне прайшоў чэмпіянат Еўропы па пляжным валейболе, які прыцягнуў увагу да Маладзечанскага раёна шматлікіх спартсменаў з 26 краін, журналістаў, прадстаўнікоў беларускіх і замежных СМІ. На гэтым тыдні Маладзечна стала гаспадаром спартакіяды Саюзнай дзяржавы для дзяцей і юнацтва па хакеі "Залатая шайба".

Падчас шматлікіх культурных падзей, якімі так багата маладзечанская зямля, напрыклад, Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, ладзяцца сустрэчы, праходзяць экскурсіі, выставы-кірмашы.

У сакавіку мінулага года ў горадзе пачаў працаваць мясцовы дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага". Асноўная мэта фонду – захаванне, адраджэнне і папулярызацыя гісторыка-культурнай спадчыны роду Агінскіх.

Ад кастрычніка мінулага года ў Маладзечне ладзяцца турыстычныя выставы, на якіх прадстаўленыя прапановы турыстычных фірм горада, аграсядзіб, рамеснікаў.

### Ёсць куды расці

На жаль, ёсць у нас і недахопы ў развіцці турыстычнай інфраструктуры: недастаткова выпускаецца сувенірнай прадукцыі, не хапае месцаў для пражывання турыстаў. Думаю, што з цягам часу гэта будзе вырашацца. Ужо хутка пад Радашковічамі адкрыецца новы аб'ект прыдарожнага сэрвісу з кафэ і гасцініцай.

І галоўнае. Сёння, 27 верасня, адзначаецца Сусветны дзень турызму. Віншую ўсіх работнікаў турыстычных арганізацый з прафесійным святам, жадаю плёну, натхнення, задавальнення ад працы, новых дасягненняў, цікавых маршрутаў і ўдзячных кліентаў.

А аматарам падарожжаў – лёгкіх дарог, ніякіх перашкод, добрых людзей на шляху і толькі прыемных уражанняў!

**Таццяна ГАНІЧ, галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.**

ГАРАСКОП (27 ВЕРАСНЯ-3 КАСТРЫЧНІКА))

**Авен.** Даруйце блізкім людзям памылкі. Падтрымлівайце іх у цяжкую хвіліну, праяўляючы клопат і любоў. Не дазваляйце іншым умешвацца ў ваша ўласнае жыццё.

**Цялец.** Вы раздражняецеся, а ўсё з-за таго, што вам пачынае здавацца, што вы няправільна выбралі другую палавінку. Але ўсё зусім не так. І не трэба думаць, што нехта некаму павінны цалкам падпарадкавацца.

**Блізняты.** Не заглядвайцеся на чужое шчасце, а лепш беражыце сваё.

**Рак.** Ранняя восень прызначаная для набыцця прафесіяналізму, досведу работы, новых ведаў. Уласнае жыццё зменіцца ў тым выпадку, калі вы пераменіце погляды і перастанеце шукаць ідэальнага спадарожніка жыцця.

**Леў.** І хаця вы творчыя і мэтанакіраваныя, але ў вас ёсць адзін недахоп – лянота. І менавіта яна перашкаджае вам пакараць вяршыні.

**Дзева.** Ведайце, што толькі агрэсія ўнутры вас прыводзіць да хвароб, няшчасцяў і ўсяго таго дрэннага, што можа здарыцца з вамі.

**Шалі.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.

**Скарпіён.** Вучыцеся давяраць людзям, не прыніжайце іх. Увогуле вядзіце барацьбу са сваімі негатыўнымі рысамі характару, асабліва яўнай перавагай над іншымі, гардыняй.

**Стралец.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце яе сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова збудзецца.

**Казярог.** "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказвацца ў патрэбным месцы ў патрэбны час.

**Вадалей.** Старайцеся стрымліваць сваё жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.

**Рыбы.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | | 9 | 4 | | 3 | |
| | | | 6 | | | | 8 | 9 |
| | | | 8 | | | | | 2 |
| | 3 | | 4 | | | | 2 | |
| 4 | 9 | 6 | | | | 5 | 7 | 1 |
| | 5 | | | | 7 | | 4 | |
| 6 | | | | | 8 | | | |
| 9 | 4 | | | | 2 | | | |
| | 8 | | 9 | 7 | | | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыйны баявік **"Копы ў спадніцах"** (ЗША, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
27 верасня – 21.00
28, 29 верасня – 18.30, 21.00
30 верасня - 3 кастрычніка – 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыя **"Выратаваць зямлю"**, 3D (Тайланд, 2013, без узроставых абмежаванняў)
27 верасня – 17.00
28, 29 верасня – 14.30
2, 3 кастрычніка – 17.00
Кошт білета – 22 000 рублёў.

Моладзевыя прыгоды **"Вось гэта каханне"** (Расія, 2013, да 14 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 верасня – 19.00
28, 29 верасня – 16.30
30 верасня - 3 кастрычніка – 19.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік **"Няўлоўныя"** (ЗША)
27-29 верасня – 17.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыя **"Вяртанне Бураціна"** (Расія)
28, 29 верасня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Жахі, камедыя **"Дом з паранармальнымі з'явамі"** (ЗША)
27-29 верасня – 19.30, 21.30
30 верасня - 3 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Гістарычныя прыгоды **"Сляды апосталаў"** (Беларусь)
1-3 кастрычніка – 19.30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

**Тэл. для даведак: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (аптымістычная трагедыя ў 2-х дзеях) Ірына Пісьменная
29 верасня, нядзеля, 17.00

Тэатр мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: **modt@tyt.by**.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Канёк-гарбунок"** (казка). П. Яршоў.
29 верасня – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +8 | | +6 / +8 | | +5 / +8 | | +5 / +8 | |
| | 736 | ↘ 6 | 736 | ↘ 1 | 742 | ↘ 3 | 742 | ↘ 2 |
| Вільня | +5 / +7 | | +5 / +9 | | +6 / +10 | | +6 / +8 | |
| | 745 | → 6 | 746 | ↘ 2 | 753 | ↘ 2 | 754 | ↓ 3 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Усход, захад па Маладзечне
Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с

Усход 7.10
Захад 18.56
Даўжыня дня 11.46

Усход 0.44
Захад 15.54
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- Узвіжанне, свята ўшанавання крыжа, на якім быў распяты Хрыстос. Да гэтага дня ўсё прыбіралася з поля, адляталі ў цёплыя краі птушкі, спыняўся рост раслін. Лічылася, што на Узвіжанне змеі "здзвігаюцца на зіму" ў норы, мядзведзі кладуцца ў бярлогі.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці гатовыя вы адмовіцца ад аўтамабіля хаця б на дзень?



**Расціслаў Дрозд, пенсіянер**

– Не бачу сэнсу адмаўляцца ад машыны, калі яна ёсць. Я адпрацаваў вадзіцелем аўтобуса 25 год і ведаю, што дарога не стаіць. Ездзіць трэба кожны дзень. Пасля хваробы сам не магу сесці за руль, езджу на ровары. І таксама лічу, што ў гэтым няма нічога дрэннага.



**Аляксандр Чарніцкі, навучэнец:**

– Гэта правільна адмаўляцца ад транспарту хоць раз на год, асабліва ўлічваючы тое, на якіх машынах ездзіць большасць маладзечанцаў. Немцы выкідваюць усялякі хлам, а мы падбіраем. Вось і ездзім, закураем паветра.



**Святлана Карповіч, сацыяльны педагог:**

– Я жыву побач з месцам сваёй працы, таму патрэбы ў транспарце не маю. Больш за тое, я не ведаю нікога з маіх знаёмых, хто б адмовіўся ад машыны ў гэты дзень.



**Алена Насевіч, настаўніца:**

– Я прынцыпова ў нядзелю не садзілася за руль. Такія акцыі трэба падтрымліваць. І праводзіць іх не толькі раз у год. Летам можна было б і тыдзень без аўто зрабіць. У нас такі прыгожы горад, чаму б не прайсціся па ім пешшу? Калі б вуліцы былі без машын, якая б была прыгажосць!



**Аляксей Кшталтны, навучэнец:**

– А што, праходзіла такая акцыя? Не заўважыў. Мне, здаецца, што ніхто не адмовіўся ад сваёй машыны. Каля базару было не праціснуцца, як і ў любы іншы дзень. Каб перакрыць рух, адміністрацыя павінна ўвесці транспарт у горадзе, можа, тады што і адчулася б.



**Аляксандр Страпко, дарожны рабочы:**

– Я езджу на ровары, таму дзень адмовы ад аўтамабіля мяне не закрануў. Але як жыхар горада, я мяркую, што больш карыснымі былі б акцыі кшталту: "Я паркую машыну як дурань".

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Літоўская дзяўчына выдала сваю першую кнігу ў 16 гадоў. Як у яе гэта атрымалася? Хто дапамог? Пра выдавецкую справу ў суседняй Літве распавядае Вітаўтас Алішаўскас, які прысвяціў гэтаму 20 гадоў свайго жыцця.**











Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 39 (961) 27.09.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 886. Падпісана ў друк у 10.00 26.09.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.